Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 26 (4826) 2 ліпеня 2015 г.



## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка напярэдадні галоўнага дзяржаўнага свята — Дня Незалежнасці — уручыў дзяржаўныя ўзнагароды прадстаўнікам розных сфер дзейнасці, якіх, паводле Кіраўніка дзяржавы, аб'ядноўвае галоўнае — добрасумленнае служэнне Айчыне і плённая праца на карысць беларускага народа. Высока ацэнены творчыя поспехі артыстаў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета, Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. І. Цітовіча, Гродзенскага абласнога тэатра лялек і шэрагу іншых устаноў.

✔ Пасольства Беларусі ў Францыі ўпершыню арганізавала акцыю «Заспяваем гімн Беларусі разам». Каля Эйфелевай вежы прадстаўнікі беларускай дыяспары, французы — сябры Беларусі, супрацоўнікі пасольства пад суправаджэнне «Гродзенскай капэлы» сумесна выканалі нацыянальны гімн.

✔ У штаб-кватэры ЮНЕСКА пад патранажам Генеральнага дырэктара Ірыны Бокавай адбыўся тэатралізаваны вечар, прысвечаны 250-годдзю з дня нараджэння Міхаіла Клеафаса Агінскага. Імпрэза арганізавана пастаянным прадстаўніцтвам Беларусі пры ЮНЕСКА пры актыўным удзеле музея «Замкавы комплекс «Мір».

✔ Старшыня Беларускага саюза журналістаў, галоўны рэдактар газеты «Рэспубліка» Анатолій Лемяшонак і дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі ўзнагароджаны міжнародным ордэнам «Крылатый лев» за вялікія заслугі ў адраджэнні Айчыны. Уручэнне адбылося 29 чэрвеня падчас культурна-адукацыйнага форуму «Беларусь і Расія: адзіная сістэма каштоўнасцей».

✔ Міністэрствы культуры Беларусі і Расіі падпісалі праграму супрацоўніцтва на 2015 — 2017 гады. Урачыстая цырымонія адбылася сёння ў Доме Масквы ў межах адкрыцця Дзён расійскай духоўнай культуры ў Беларусі.

✔ Міжнародны пленэр па кераміцы «Арт-Жыжаль» пачнецца 9 ліпеня на базе адпачынку «Вербкі» пад Бабруйскам. Своеасаблівая інтэрнацыянальная майстэрня, дзе гліна дзякуючы апбалу перастварaецца ў сапраўдныя творы мастацтва, збярэ на гэты раз майстроў з 10 краін. Упершыню чакаюцца мастакі з Японіі.

✔ Да 15 кастрычніка ў Полацку адкрыты прыём работ на другі конкурс аматарскіх фільмаў «Я здымаю кіно», прысвечаны Юрыю Тарычу. Вітаюцца работы, прысвечаныя 70-годдзю Вялікай Перамогі. Ацэньваць кінатворы па намінацыях будуць прадстаўнікі «Беларусьфільма», Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, а лепшае кіно пакажуць у полацкім кінатэатры «Радзіма».

✔ Культурныя і песенныя традыцыі васьмі краін, беларуская народная кухня, шоу барабаншчыц і многае іншае прапанавалі гасцям на XXII Міжнародным фестывалі народнай творчасці «Дняпроўскія галасы ў Дуброўне» Віцебскай вобласці.

ISSN 0024-4686


Фота БелТА.

Выпускніца Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Анастасія Клепча ўганаравана Падзякай Прэзідэнта.

**Дабрабыт, стабільнасць, мірнае існаванне Беларусі — у руках моладзі. Гэта 26 чэрвеня падкрэсліў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, выступаючы на Рэспубліканскім балі выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў.**

# Пераможцы


Фота Наталі Купрэвіч.

Алесь Савіцкі і Мікалай Чаргінец.

Саюз пісьменнікаў Беларусі падвёў вынікі Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу, прысвечанага 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 70-годдзю Вялікай Перамогі. Урачыстае ўзнагароджанне пераможцаў праходзіла 30 чэрвеня ў Мемарыяльнай зале Дома літаратараў у Мінску, а вітаў лаўрэатаў старшыня СПБ Мікалай Чаргінец.

— Сімвалічна, што мы сабраліся ў гэтай зале, своеасаблівым храме памяці нашых таварышаў і калег. Цешыць, што і сёння сярод нас ёсць пісьменнікі-ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны: Алесь Савіцкі, Ала Чорная, Анатоль Дзялендзік, Уладзімір Федасеенка... Іх творчасць раскрывае сапраўдную чалавечую мужнасць, дае прыклад маладому пакаленню.

На конкурс было заяўлена больш як сто мастацкіх і публіцыстычных прац. У ліку пераможцаў апынуўся 31 чалавек, сярод якіх пісьменнікі Алесь Савіцкі (за раман «Обаль»), Уладзімір Гніламёдаў (за раман «Вайна»), Зінаіда Дудзюк (за кнігу «Выжыць на дарозе смерці»), Алесь Марціновіч (за часопісныя публікацыі), Мікола Чарняўскі (кніга «На плошчы памяці маёй»), Уладзімір Федасеенка (за раман «Віхры на скрыжаваннях»), Казімір Камейша (за кнігу «Курганны звон»), Вячаслаў Бандарэнка (за распрацоўку патрыятычнай тэмы на дакументальных матэрыялах Першай сусветнай і Вялікай Айчыннай вайны), Тамара Краснова-Гусачэнка (за цыкл вершаў у часопісе «Нёман» № 4) ды іншыя творцы. Памятны сувенір і Дыплом лаўрэата конкурса атрымала Лідзія Шагойка — «за вялікую работу па прапагандзе беларускай літаратуры на ваенную тэматыку». Шэраг аўтараў атрымалі дыпломы і граматы.

Адзначаныя былі не толькі асобныя творцы і дзеячы культуры. Так, сувеніры-прызы і дыпломы былі ўручаныя прадстаўнікам Віцебскага, Гродзенскага і Мінскага абласных аддзяленняў саюза пісьменнікаў. Таксама чынам пісьменніцкая арганізацыя выказала падзяку выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі», «Харвест», «Чатыры чвэрці», Выдавецкаму дому «Звязда», а таксама — Дзяржаўнаму музею гісторыі беларускай літаратуры, з якім СПБ ажыццяўляе сумесны праект «Літаратурныя вандроўкі».

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

## Ігар КАРПЕНКА:

# «У сучаснай літаратуры бракуе гучных імёнаў»


Фота Кастуся Дробава.

**У кабінеце намесніка старшыні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта Ігара Карпенкі пачэснае месца займае шафа з кнігамі: тут знойдзецца і самавітая «Беларусь замкавая», і факсімільная «Калядная пісанка 1913 год», раман «Аперацыя «Кроў» Мікалая Чаргінца і п'есы Аляксея Дударава, вершы Валерыя Брусава з закладкамі, пэўна, на самых любімых творах і слоўнік эпітэтаў беларускай мовы Н. Гаўрош… Да выхаду некаторых выданняў гаспадар кабінета спрычыніўся асабіста — напрыклад, «Памятаем, каб жыць» (2005, лепшыя дзіцячыя творы ўдзельнікаў гарадской акцыі «Дзеці XXI стагоддзя: Мы памятаем, каб жыць»). Таму невыпадкова гаворка пачалася з разваг пра кнігі, прачытаныя ў дзяцінстве, і іх уплыў на лёс самога Ігара Васільевіча.**

— Памятаю, як бацькі чыталі мне казкі. Але раней не было такога шырокага выбару кніжнай прадукцыі, як сёння. Пазней, падлеткам, зачытваўся Аляксандрам Дзюма, Марысам Друонам, Міхаілам Шолахавым, Аляксеем Талстым, ды і ўвогуле найбольш любіў гістарычную прозу, у тым ліку прысвечаную Вялікай Айчыннай вайне — творы Васіля Быкава, Івана Шамякіна… У школе мне пашанцавала з настаўнікамі літаратуры, як рускай, так і беларускай. Няблага пісаў сачыненні. Мабыць, гэта і вызначыла выбар спецыяльнасці: па адукацыі я гісторык. Падчас вучобы мы, студэнты, вельмі многа працавалі з гістарычнымі першакрыніцамі, сярод якіх былі «Аповесць мінулых часоў», «Слова пра паход Ігаравы». Акрамя таго, вось ужо трыццаць гадоў кірую Народным студэнцкім шоу-тэатрам «Мы» ў БДПУ імя Максіма Танка, падбіраю цікавыя п'есы для пастановак: «Барвовы востраў» Булгакава, «Жаніцьба Фігаро» Бамаршэ…

Люблю вершы, раней крыху пісаў і сам, цяпер — толькі тое, што трэба для тэатра. Мне цікавая лірыка Аляксандра Пушкіна і Дзяніса Давыдава, а любімы паэт — Уладзімір Маякоўскі. Перачытваю цяпер паэму «Васіль Цёркін» Аляксандра Твардоўскага. Калі зусім стомлены, бывае, чытаю дэтэктывы. Электронныя кнігі неяк не ўспрымаю: папяровыя, тым больш старыя, маюць для мяне спецыфічную энергетыку. Мой любімы гістарычны перыяд — Сярэднявечча, асабліва французскае — эпоха кардынала Рышэлье, прагрэсіўнага дзеяча свайго часу. Менавіта Рышэлье, чалавеку высокага рэлігійнага сану, належыць дактрына пра тое, што дзяржаўныя інтарэсы вышэй за рэлігійныя, нацыянальныя і г. д.

**— Дарэчы, менавіта ён казаў: «Дайце мне шэсць радкоў, напісаных рукою самага сумленнага чалавека, і я знайду ў іх тое, за што яго можна павесіць»…**

— Так, гэта быў надзвычай неардынарны чалавек і разумны палітык, хаця меркаванні аўтараў розных манаграфій, прысвечаных яго асобе, не супадаюць.

**— Але чытаў ён, відаць, вельмі ўважліва! Зрэшты, чытанне — прыкмета адукаванасці асобы. Наколькі цікавыя вам кніжныя навінкі, у першую чаргу айчынныя? Калі наведваеце мінскія кнігарні, якія думкі ў вас узнікаюць?**

— Заўсёды імкнуся знайсці цікавы драматургічны матэрыял. Два гады таму тэатр «Мы» пацвярджаў званне народнага, і я паставіў п'есу Жана Ануя «Арніфль, ці Скразны ветрык». Разам з тым лічу, што сёння ў айчыннай літаратуры, ды і не толькі ў айчыннай, бракуе гучных імёнаў, якія б уражвалі настолькі, што кнігі гэтых аўтараў хацелася б набываць і чытаць пастаянна. Мне ж больш вабіць класіка, бо высокамастацкі твор, які раскрывае сутнасць чалавека, актуальны ва ўсе часы.

*«У папулярызацыі чытання не павінны заставацца ўбаку і кнігарні. На мой погляд, неабходна выкарыстоўваць такую форму працы, як прэзентацыі кніжных навінак у кнігарнях з удзелам беларускіх аўтараў...*

**— А газета, часопіс? Ці захоўваецца сёння цікавасць да друкаваных СМІ?**

— Захоўваецца пэўны ўзровень даверу да традыцыйных, друкаваных, сродкаў масавай інфармацыі. Рэспубліканская і рэгіянальная прэса, што асвятляе падзеі ў горадзе, прадстаўлена самымі рознымі друкаванымі выданнямі. Сёння ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь зарэгістравана 1,5 тысячы друкаваных выданняў, дзве трэці якіх — недзяржаўныя. Тэрыторыя распаўсюджання большасці з іх прыходзіцца ў тым ліку і на сталіцу.

Лідарамі сярод штодзённых грамадска-палітычных газет з'яўляюцца «СБ. Беларусь сегодня», «Звязда», «Народная газета», «Рэспубліка». У пастаянную практыку працы «СБ» увайшло правядзенне «круглых сталоў» па злабадзённых для горада пытаннях. У газеце «Звязда» выходзіць «Мясцовае самакіраванне», у «Народной газете» — «У сталіцы».

Сталічная прэса прадстаўлена агенцтвам «Минск-Новости» — нашым галоўным медыяхолдынгам. За апошнія два гады праведзена маштабная рэарганізацыя прадпрыемства. Сёння агенцтва аб'ядноўвае рэдакцыі газет «Минский курьер» і «Вечерний Минск», дзіцячага часопіса «Качели», радыёпраграмы «Радио-Минск», інфармацыйны навасны веснік у інтэрнэце.

**— На Вашу думку, на што сёння журналісты мусяць звярнуць асаблівую ўвагу?**

— Я лічу, што максімальную ўвагу трэба надаць аналітычнаму складніку публікацый, даваць больш матэрыялаў па моладзевай тэматыцы, больш актыўна далучаць меркаванні спецыялістаў. Патрабуюць развіцця і візуальныя формы падачы інфармацыі. Газетным матэрыялам часам бракуе пераканаўчасці і сур'ёзных абагульненняў, яны бываюць перагружаны агульнымі фразамі. Некаторыя публікацыі ўздымаюць важныя пытанні, але спосабы падачы матэрыялу не прыцягваюць увагі чытачоў і слухачоў, а іншым разам і проста выклікаюць негатыўнае стаўленне. Яркасць, выразнасць мовы насуперак шматслоўю і штампам — галоўнаяўмовапавышэння дзейснасці выступленняў дзяржаўных СМІ.

**— Тады і падпіска вырасце…**

— Поспех падпісной кампаніі заключаецца ў цесным узаемадзеянні Мінгарвыканкама, раённых адміністрацый ды ідэалагічнага актыву з друкаванымі выданнямі, грамадскасцю, працоўнымі калектывамі. Сістэма працы, што існуе ў горадзе, дазволіла на фоне характэрнай тэндэнцыі зніжэння ўзроўню падпіскі не дапусціць памяншэння колькасці арганізацый, якія афармляюць яе.

Рэдакцыямі газет выкарыстоўваецца разнастайныя формы правядзення падпісных кампаній: прэзентацыі, акцыі, дні падпісчыка ў паштовых аддзяленнях…

**— А рэсурс сеціва выкарыстоўваецца?**

— Сярод асноўных інтэрнэт-рэсурсаў горада вядучыя пазіцыі займае афіцыйны інтэрнэт-партал Мінгарвыканкама, які аб'яднаў самастойныя сайты 9 адміністрацый раёнаў і 37 падраздзяленняў ды камунальных прадпрыемстваў горада. У рэйтынгу наведвання незалежных крыніц інтэрнэтпартал стабільна мае вядучыя пазіцыі сярод сайтаў дзяржорганаў. Штодзень сюды завітвае каля 10 тысяч унікальных карыстальнікаў.

**— Гэта больш, чым бібліятэкі…**

— Але і сталічным кніжніцам у інфармацыйнай прасторы горада адводзіцца адметная роля! Публічныя бібліятэкі сёння з'яўляюцца не толькі цэнтрам вольнага часу і развіцця праз чытанне, але і інфармацыйным цэнтрам, дзе асноўны аб'ём займаюць пытанні генерацыі інфармацыі на аснове іншых інфармацыйных крыніц, пытанні якаснага і хуткага прадстаўлення спасылак на інфармацыю, якая цікавіць карыстальнікаў.

У сталіцы 43 публічныя бібліятэкі, у тым ліку 18 дзіцячых і 2 спецыялізаваныя (нотна-музычная і спецыяльная гарадская бібліятэка для сляпых). Больш як 330 тысяч мінчан штогод карыстаюцца паслугамі бібліятэчных устаноў сталіцы.

У мэтах прыцягнення шырокай увагі грамадскасці да чытання бібліятэкі штогод арганізуюць больш як 4 тысячы інфармацыйна-культурных акцый, скіраваных на прапаганду беларускай літаратуры, духоўнага адраджэння, здаровага ладу жыцця.

Такія мерапрыемствы наведвае звыш 90 тысяч чалавек. Штогод гарадскія публічныя бібліятэкі прадстаўляюць больш як 3 тысячы літаратурных выставак і тэматычных праглядаў, якія раскрываюць фонды ўстаноў, а таксама адлюстроўваюць усе знамянальныя і памятныя даты жыцця краіны.

Сёння перад бібліятэкамі стаяць задачы па абнаўленні і мадэрнізацыі парку камп'ютарнай тэхнікі, выкананні зацверджаных паказчыкаў па камплектаванні фондаў, рэалізацыі рэспубліканскага і гарадскога планаў мерапрыемстваў на Год моладзі.

**— А як зацікавіць людзей чытаннем, мастацтвам наогул?**

— У папулярызацыі чытання не павінны заставацца ўбаку і кнігарні. На мой погляд, неабходна выкарыстоўваць такую форму працы, як прэзентацыі кніжных навінак у кнігарнях з удзелам беларускіх аўтараў, сумесна з галоўным упраўленнем спажывецкага рынку вартапрадумацьмагчымасцьувядзення дысконтных ці назапашвальных карт пры пакупцы кнігі, знаходзіць новыя інтэрактыўныя формы прыцягнення насельніцтва да набыцця кніжнай прадукцыі…

Мінгарвыканкам штомесяц праводзіць самыя розныя культурна-асветніцкія акцыі. Напрыклад, у чэрвені ў нас прайшлі выстаўка дзіцячага малюнка ды плаката ў межах рэспубліканскага конкурсу да Дня бежанцаў "Тут усе свае" і выстаўка жывапісных ды графічных работ стыпендыята Беларускага дзіцячага фонду Кацярыны Віткоўскай «Мары збываюцца» (Музей гісторыі горада Мінска), *open air* фестываль нямога кіно і сучаснай музыкі «КИНЕМО» сумесна з «Кінавідэапракатам», рэалізуюцца праекты «Джазавыя суботы ля Ратушы» і «Музейны тэатр» (у межах апошняга прайшоў канцэрт *Unlimited Trio*, Беларусь — Чэхія) ды іншыя мерапрыемствы.

**Гутарыла Таццяна СІВЕЦ**

# Чалавек эпохі

**Між культурных мерапрыемстваў, якія адбыліся напрыканцы чэрвеня, — сустрэча, прымеркаваная да 110-годдзя з дня нараджэння Петруся Броўкі. У музеі народнага паэта прагучала нямала ўспамінаў, вершы Пятра Усцінавіча чытаў артыст Алег Вінярскі.**

Петруся Броўку згадвалі як творцу і сябра, у першую чаргу — як энцыклапедыста, галоўнага рэдактара Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Намер Пятра Усцінавіча падрыхтаваць і выдаць беларускую энцыклапедыю не сустрэў усеагульнай падтрымкі дзяржаўных асоб. Паводле гісторыка Анатоля Валахановіча, пералік устаноў, якія давялося наведаць Броўку, каб узгадніць праект энцыклапедыі, можа скласці цэлую кнігу. Паэт быў цвёрда перакананы: беларусы будуць лічыцца нацыяй толькі тады, калі атрымаюць сваю энцыклапедыю. А. Валахановіч адзначыў адказнасць Петруся Броўкі: галоўны рэдактар сам чытаў кожны артыкул, але клапаціўся як пра энцыклапедыю, так і пра аўтарскі калектыў. Пры неабходнасці ён заўсёды знаходзіў магчымасць, каб падтрымаць супрацоўнікаў.

Якім чалавекам быў Пятрусь Броўка? «Працавіты, энергічны, аўтарытэтны. Ён быў вельмі занятым, таму, здаецца, не меў часу ні сябраваць, ні варагаваць», — распавёў паэт Генадзь Пашкоў. Генадзь Пятровіч — адзін з тых, хто працягнуў справу П. Броўкі. З 1996 года да 2008 года — дырэктар выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.

«Броўка быў чалавекам сваёй эпохі — сапраўдным камуністам і вялікім інтэрнацыяналістам», — мяркуе паэт Ганад Чарказян,якіпазнаёміўсязПятромУсцінавічам «не па літаратурных справах».

Удзельнікамі юбілейнага вечара сталі паэты, навукоўцы, музейныя супрацоўнікі і сённяшнія энцыклапедысты.

**Янка НАТАВЕЦ**

# Творчасць нашчадкаў Перамогі

Літаратурная імпрэза «Па праву жывога», прысвечаная 70-годдзю Вялікай Перамогі і прымеркаваная да 91-й гадавіны з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, адбылася ў Мінскім гарадскім адукацыйна-аздараўленчым цэнтры «Лідар» у межах рэспубліканскага праекта «Лета з добрай кнігай».

Ініцыявалі сустрэчу Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры і Саюз пісьменнікаў Беларусі. Падчас мерапрыемства адбылася прэзентацыя аднайменнага калектыўнага зборніка лірыкі з вершамі айчынных паэтаў, чые бацькі і дзяды ваявалі на франтах Вялікай Айчыннай. «Маладое пакаленне павінна ведаць гісторыю сваёй краіны і свайго роду», — зазначыла, звяртаючыся да выхаванцаў цэнтра «Лідар», загадчык культурна-адукацыйнага аддзела музея Лідзія Шагойка.

Распачалася імпрэза вершам першага сакратара СПБ, паэта Генадзя Пашкова «Па праву жывога» ў выкананні студэнта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі Дзмітрыя Куіса. Ад аўтара твора, які прысутнічаў на мерапрыемстве, чытальнік атрымаў у падарунак яго кнігу «Жуpaвінавы вострaў» з аўтографам. Дарэчы, бацька Г. Пашкова таксама быў удзельнікам Вялікай Айчыннай.

Галоўны спецыяліст Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, паэтэса Іна Фралова, паэт-песеннік Кастусь Цыбульскі, паэтэса і бард Ганна Чумакова і пісьменніца Яна Явіч прадставілі ўласныя творы на ваенную тэму.

Вершы са зборніка «Па праву жывога» — «Памяці дзеда» Андрэя Цяўлоўскага і «Абеліскі» Міколы Леўчанкі — прачыталі супрацоўніцы Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Вольга Шаўчэнка і Алена Канапацкая.

**Арына КРАЙКО**

# Моўныя скарбы

**Прэзентацыя кнігі Алеся Зайкі «Прыказкі і прымаўкі…», якая нядаўна пабачыла свет у выдавецтве «Тэхналогія», адбылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы.**

Алесь Зайка — нястомны даследчык беларускай мовы. Цікавіцца дыялекталогіяй, фразеалогіяй, фальклорам, гісторыяй сяліб. Амаль паўстагоддзя збірае моўныя скарбы сваёй малой радзімы — Івацэвіччыны.

Новае выданне — вынік доўгай, карпатлівай працы. Гэта першае сістэматызаванае апісанне фразеалагічнага багацця Косаўшчыны. Запісы рабіліся А. Зайкам цягам 1964 — 2014 гг.

Поўная назва выдання — «Прыказкі і прымаўкі, жарты і каламбуры, прыгаворкі і языкаломкі, вясельныя прыгаворкі пры дзяльбе каравая, вітанні і зычэнні, ветлівыя і ласкавыя выразы, засцярогі і прысяганні, праклёны і адкляцці, жартоўныя праклёны і дражнілкі-кепікі, зневажанні і параўнанні, прыкметы народнага календара з Косаўшчыны». Акурат усё гэта і склала змест кнігі!

У прэзентацыі ўзялі удзел айчынныя мовазнаўцы і фалькларысты, сябры і калегі аўтара. Падчас імпрэзы ў зале ўстановы панавала вясёлая атмасфера, адпаведная настрою кнігі. Музычнае аздабленне стварыў этна-гурт «Мярэжа», які выканаў купальскія песні.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Не згасне памяці агонь

**Тыдзень ваеннай кнігі пад назвай «Ваенных год ажыўшыя старонкі...» арганізаваны бібліятэкарам Пераростаўскай сельскай бібліятэкі Добрушскага раёна Валянцінай Галкінай.**

У праграме — пазнавальныя мерапрыемствы для школьнікаў, віктарыны, конкурсы, вандроўкі да помнікаў воінам-чырвонаармейцам, якія загінулі падчас Вялікай Айчыннай вайны. Узгадалі добрым словам і мясцовых удзельнікаў вайны, якіх ужо няма ў жывых.

Творы айчынных і мясцовых літаратараў, прысвечаныя ваеннаму ліхалеццю, упрыгожваюць паліцы сельскай кніжніцы і застаюцца запатрабаванымі.

**Ларыса СЯМЁНАВА**

*Традыцыі*

# Летнік на Пцічы

Чацвёрты год запар з 15 па 19 ліпеня, падчас рамесніцкага летніка на беразе ракі Пціч, побач з вёскай Азярычына Пухавіцкага раёна ўсім жадаючым прапануецца засвоіць традыцыйныя беларускія рамёствы — традыцыйныя для гэтай мясцовасці лозапляценне і выраб посуду з дрэва. Упершыню будуць праведзеныя майстар-класы па тэхніцы фарбавання тканіны і нітак.

Сёлета летнік наведае мастацкі кіраўнік фальклорнага калектыву «Верабейкі» Сяргей Выскварка і навучыць рабіць выцінанкі. Вечарам чакаюцца міні-этнаграфічныя паходы, спевы, танцы і канцэрт.

Лозунг летніка — «Лаза — гэта проста і натуральна!» Арганізатары імкнуцца паказаць, што засвоіць рамесніцкі занятак можа кожны.

**Ганна РУБЧЭНЯ**

# Пасля цвярскога фестывалю

**Творчая вечарына айчыннай паэтэсы Людмілы Клачко, прымеркаваная да яе дня нараджэння, адбылася ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 5.**

Пра пачатак творчага шляху аўтаркі паэтычнага зборніка «На колькі слоў…» распавёў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў. Паэтэса чытала свае вершы, падзялілася і ўражаннямі ад удзелу ў VII Міжнародным фестывалі славянскай паэзіі ў расійскай Цвяры.

Павіншаваць маладую творцу прыйшлі яе сябры і калегі па пяры: намеснік старшыні МГА СПБ Наталія Касцючэнка, Яна Явіч, Мікола Шабовіч, Дзмітрый Пятровіч, Лізавета Палеес, Дзмітрый Дземідовіч і Кацярына Массэ.

**Дана ХОДНІЧ**

## ЛіМ-каляндар

**1 ліпеня** — *85 гадоў адзначае Васіль Літвінчук, пісьменнік-дакументаліст.*

**1 ліпеня** — *80 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Крываля (1935 — 1996), пісьменніка-парадыста.*

**1 ліпеня** — *25 гадоў з часу заснавання Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» (Маладзечна).*

**2 ліпеня** — *95 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Лісіцына (1920 — 2004), музыканта, дырыжора, заслужанага работніка культуры Беларусі.*

**3 ліпеня** — *65 гадоў з дня нараджэння Міколы Арахоўскага (1950 — 1997), драматурга, пісьменніка, лаўрэата Тэатральнай прэміі імя К. Крапівы.*

**6 ліпеня** — *25 гадоў з часу заснавання Музея-сядзібы Ф. Багушэвіча «Кушляны».*

**8 ліпеня** — *90 гадоў з дня нараджэння Міхася Клышкі (1925 — 1984), журналіста, мовазнаўца, аўтара першага ў беларускай лексікаграфіі слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў.*

**10 ліпеня** — *115 гадоў з дня нараджэння Пётры Сергіевіча (1900 — 1984), беларускага і літоўскага мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў Літвы.*

**10 ліпеня** — *105 гадоў з дня нараджэння Сяргея Астравумава (1910 —1991), акцёра, рэжысёра, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.*

**10 ліпеня** — *35 гадоў з часу заснавання Літаратурнага музея Петруся Броўкі (Мінск).*

**11 ліпеня** — *85 гадоў з дня нараджэння Івана Рэя (1930 — 2002), жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.*

**14 ліпеня** — *95 гадоў з дня нараджэння паэта Алеся Астапенкі(1920 — 1970).*

**15 ліпеня** — *115 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Дубоўкі (1900 — 1976), пісьменніка, перакладчыка, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы.*

**16 ліпеня** — *75 гадоў адзначае Ніна Загорская, паэтэса, публіцыст, крытык, заслужаны работнік культуры Беларусі, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне».*

**16 ліпеня** — *65 гадоў Ірыне Цвятковай, кампазітару, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.*

**19 ліпеня** — *65 гадоў з дня нараджэння мастака Уладзіміра Сулкоўскага (1950 — 2013).*

**20 ліпеня** — *135 гадоў з дня нараджэння Гальяша Леўчыка, паэта, беларусазнаўца, публіцыста, перакладчыка.*

**23 ліпеня** — *95 гадоў з дня нараджэння Ніны Карнеевай (1920 — 2007), актрысы, народнай артысткі Рэспублікі Беларусь.*

**24 ліпеня** — *195 гадоў з дня нараджэння Люцыяна Крашэўскага, мастака, фатографа, удзельніка паўстання 1863—1864 гг.*

**25 ліпеня** — *175 гадоў з дня нараджэння Юльяна Крачкоўскага, беларускага фалькларыста, этнографа, гісторыка, археографа.*

**28 ліпеня** — *105 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Стэльмаха, тэатральнага дзеяча, пісьменніка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.*

## Мікола МЯТЛІЦКІ



## Ветэрану

*Трывай, салдат вайны,*
*Табе ці ўпершыню*
*Прабіць аскал маны,*
*Як тоўстую браню?*

*Ілжэ Еўропа ўсмак —*
*Ажно да хрыпаты*
*Сцінаецца: «Аднак*
*Мне мір здабыў — не ты!»*

*Над ёю небасхіл*
*Гарыць, як воя кроў.*
*Без ліку ўсцяж магіл*
*На ёй тваіх сяброў.*

*Палеглі тут яны*
*І ў свой апошні май.*
*Трывай, салдат вайны,*
*За іх усіх — трывай.*

*Ды не, не ў немаце*
*Глухой скразной жывi.*
*Шчэ праўда прарасце,*
*Як кветка,*
*На крыві!*

***

*Музей Вялікае вайны,*
*Тут зброя помсты не астыла,*
*Зліліся ў вечны рух скразны*
*Жывая прага фронту й тылу.*

*Тут вырастае Чалавек*
*Вялікай постаццю Свабоды.*
*Тут абвяргаюць кроў і здзек*
*У ярмо загнаныя народы.*

*Даносіць кожны экспанат*
*Пякотны боль сусветнай драмы.*
*І Брэсцкай крэпасці салдат*
*Жывы — у бліках галаграмы.*

*І бачыш зноў той скрушны міг —*
*Снарад байца шматуе цела.*
*Да глыбіні вайну спасціг,*
*Што на паўсвету звар'яцела.*

*Музей вайны… Бетон і шкло.*
*Тут болю стратнага замнога.*
*А ў залы цэдзіцца святло*
*Ўжо часу іншага, зямнога.*

*Сцінаюць сэрца смерць і ціш.*
*Прывід вайны — жахотна-дрогкі.*
*Нібы над прорвінай стаіш, —*
*Ён, белы свет, надзвычай крохкі.*

*Тут дабівае зык маны*
*Штохвілі мужнай праўды сіла.*
*Музей Вялікае вайны,*
*Тут памяць наша — не астыла!*

***

*У гэтым лесе франтавым*
*Стаяць заслонай шчыльнай дрэвы.*
*Каторы год сякуць па ім*
*Адны вятрыстыя залевы.*

*Акопаў даўнія сляды —*
*Ірвы ды бруствераў гарбіны —*
*Сабой аздобіўшы груды,*
*Схавалі ў зацені хваіны.*

*Пануе волкі дух грыбны*
*У нетры стоенай па леце.*
*Пазнаеш зноўку здань вайны*
*У дрэва ссохлага шкілеце.*

*Нібы ступае смерць сама —*
*Яе пагляд адчайна-строгі.*
*І ўжо не верыш, што няма*
*З суровай прошласці дарогі.*

*Ўсё тут сышлося, і жыве,*
*І мкнецца гулам навальніцы.*
*І праступаюць у траве*
*Крывёй нязгаснаю суніцы.*

## Віктар ХМАРУК



***

*У нябёсы ўзлятаю,*
*У далеч гляджуся —*
*І дарогу праступую*
*Да сваёй Беларусі,*
*Дзе на крылах юначых*
*У аблоках лунаў*
*Дзе красу я пабачыў,*
*Дзе каханне спаткаў…*

***

*Як мала трэба для жыцця,*
*Каб быць вясёлым і шчаслівым,*
*Каб весне дыхала зямля*
*І называў цябе хтось мілым.*

*Каб не шукаў ты дзень і ноч*
*Свайго кутка,*
*яе прызнання*
*І глыбіні тых сініх воч,*
*Што прынясуць табе каханне.*

***

*Якое сэрца трэба мець,*
*Каб утрымаць яго ад болю,*
*Каб ад пакутаў не згарэць,*
*А даць яму святло і волю.*

*Бо цяжка, вусцішна яму*
*Адстукваць лёсу шлях далёкі*
*І ўсё чакаць душы вясну,*
*Кахання белыя аблокі!*




Фота Кастуся Дробава.

## Сцяжынамі памяці

## Аляксей КУМЕЙША



Нядаўна сланімчанка Таццяна Кажамяка расказала мне пра свайго дзеда Аляксея Кумейшу (1915 — 1977), які прайшоў дарогамі Вялікай Айчыннай вайны і вярнуўся ў Слонім з ордэнамі ды медалямі. Пасля вайны ён шмат гадоў працаваў у Слонімскай нарыхтоўчай канторы. А ў вольны час пісаў вершы на роднай мове. Першыя з'явіліся на старонках слонімскай раённай газеты «Вольная праца» (так яна называлася пасля вайны) у другой палове 1940-х. Друкаваўся ж ён да сярэдзіны 1970-х. Пісаў не толькі вершы, але і інфармацыйныя матэрыялы з прадпрыемстваў і арганізацый Слонімшчыны.

Аляксей Кумейша пісаў пра мірнае жыццё і працу, часам прыгадваючы і свае франтавыя будні. Прапануем чытачам «ЛіМа» пазнаёміцца з некаторымі вершамі лірыка-франтавіка.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Да новых спраў

*Сотні вёрст салдат ішоў*
*Сцюжай, непагодай —*
*Па балотах, між лясоў*
*Славу нёс народа.*
*І калі-небудзь ужо*
*Змора з ног валіла,*
*Адпачыўшы, зноў ішоў,*
*Ды з трайною сілай.*
*Так прайшоў вялікі шлях*
*З мужнаю адвагай,*
*І узняў чырвоны сцяг*
*Над дахам Рэйхстага.*
*І пад сцягам, што узняў*
*Наш салдат высока,*
*Мы ідзём да новых спраў,*
*Новых пяцігодак…*

1948

## Мы стрымалі Радзімы наказ

*Не кажы, не кажы ты мне*
*болей:*
*Я і так разумею усё,*
*Бачыш, вось без граніцы*
*прыволле,*
*Сэрца ў ім і маё, і тваё.*
*Нарадзіліся тут, тут раслі мы,*
*Тут трывогу пазналі вайны,*
*Калі вораг пайшоў на Радзіму,*
*Каб навек нам адзець кайданы.*
*Але росшых у гэтым прыволлі*
*Сэрцаў нельга было пакарыць,*
*Як было пакарыцца няволі,*
*Калі мы пачалі толькі жыць?!*
*Сотні мелі жаданняў у сэрцы,*
*Бо юнацтва, як кветкі, цвіло,*
*І ў такую хвіліну памерці*
*Нам ніяк немагчыма было.*
*Не кажы, бо мы разам бывалі,*
*Мы стрымалі Радзімы наказ!*
*Лепш зірні на блакітныя*
*хвалі —*
*Яны зноў залацяцца для нас.*

1948

## Аб краі любімым…

*Далёка, далёка*
*Ад роднае хаты,*
*На сінім Дунаі*
*На склонах Карпатаў*
*Аб краі любімым*
*Спяваюць салдаты —*
*З-пад Слоніма двое,*
*Ды трое з Палесся…*
*І рэха далёка*
*Імчыць па узлессі —*
*Матчу беларускай*
*Працоўнае песні.*

1948

## Песня хлебаробаў

*Ледзь сонца рассыпле праменні,*
*Загушкаюць гоплем бары, —*
*Выходзяць брыгады і звенні*
*У поле багацце тварыць.*
*І песню зацягнуць пад вечар,*
*Хай льецца бадзёры матыў*
*Аб справах працоўных*
*Прырэчча*
*Над золатам спеючых ніў.*
*Мы марна не страцім хвіліны,*
*Багаты збяром ураджай,*
*Каб край наш цудоўны і сіні*
*Яшчэ багацейшым быў край.*
*Калгасу ёсць чым ганарыцца,*
*Ніхто не хаваецца ў цень…*
*Таму на балотах пшаніца*
*У рост чалавека расце.*

1968

## Я іду да тых хат

*Адыходзіла ноч,*
*праясняўся блакіт,*
*Затаіў недзе вецер дыханне.*
*Падымаўся туман*
*з прыдарожных ракіт,*
*Усміхалася новае ранне.*
*І блішчалі як сталь*
*за чаротам густым*
*Ледзь рухомыя возера хвалі,*
*І зялёны альшэўнік,*
*маліны кусты*
*У люстэрка вады пазіралі.*
*Я іду па траве, што зраслася*
*з лазой,*
*І гляджу на льняныя разлівы,*
*Асыпае хмызняк мяне*
*дробнай расой,*
*Быццам маці слязою шчаслівай.*
*Поўны радасці, сіл, я спяшу*
*да тых хат,*
*Дзе хвалюецца музыка звонаў,*
*Дзе мой сябра-танкіст,*
*ударашні салдат,*
*Завіхаецца з трактарам сёння.*

1968

## Мой горад

*Над Шчарай зялёнай*
*Да ўзлесся і вёсак*
*Разросся мой Слонім*
*Шырока, высока.*
*І люба, і ветла*
*Прайсці кожны дзень*
*Па вуліцах светлых,*
*Дзе праца гудзе.*
*Ва ўбранні вясновым*
*Глядзіць маладзей,*
*На вуліцах новых*
*Багата людзей.*
*І працы іх плёнам*
*Штодзень ганарыцца,*
*Уборам зялёным*
*У Шчару глядзіцца.*
*Ляцяць павуцінкай*
*Над горадам гусі,*
*Мой Слонім — часцінка*
*Маёй Беларусі!..*

1977

Наталля САВЕТНАЯ

# Падкоп

*Прысвячаецца маім настаўнікам — дзецям Вялікай Айчыннай вайны*

Перш-наперш мама павяла мяне ў школу. Пасля невялічкай аднапавярховай васьмігодкі ў Гарадку мінская сто семдзесят другая падалася мне страшна велізарнай. Мы доўга блукалі па паверхах, пакуль адшукалі патрэбны кабінет, афармілі дакументы.

Першага верасня мяне з партфелем, букетам кветак, але ўжо адну, без мамы, сустрэў светлы будынак — пахам фарбы, звонкім дзіцячым шматгалоссем. Аглушанае гоманам фае весела пазірала асляпляльна-чыстымі вокнамі на шырока расчыненыя дзверы, праз якія сцякала ў школу бурлівая рака дзятвы з белай пенай велічных бантоў, белых кашуль, карункавых фартухоў, каўнерыкаў з манжэтамі. Сярод іх калыхаліся хвалямі букеты вяргіняў, астраў, аксамітак, рамонкаў...

Гэтая жывая рака падхапіла мяне, унесла ў святочны хол, затым на вуліцу — услед за рупарам, які абвясціў лінейку на школьным стадыёне. Пракаціла па вучнёўскіх шарэнгах і кінула. Амаль захлынуўшыся ў імклівым струмені дзятвы, адчула збянтэжанасць: дзе мой клас, настаўніца...

Схаваўшыся за спіны старэйшых хлопчыкаў і дзяўчынак, доўга прыслухоўвалася да грымотнага рупара.

Прыціхлая рака зноў ажыла, зашумела, падхапіла мяне, унесла ў знаёмае фае і, раздрабніўшыся на ручаінкі, пацякла па лесвіцах, паверхах, што зніклі ў кабінетах. Званок праззвінеў у трэці раз. Адна… у доўгім апусцелым калідоры…

— Дзяўчынка, ты з якога класа? — настаўніца са сшыткамі здалася выратавальным ветразем у абыякавым акіяне.

— З чацвёртага, — я прыўзняла букет патрапаных вяргіняў.

— З чацвёртага «А», «Б»... Якога?

— Не ведаю, — стрымлівалася з усіх сіл, каб не разрумзацца.

— Новенькая?

…Нарэшце я апынулася ў сваім чацвёртым. Галовы хлапчукоў і дзяўчат дружна павярнуліся ў мой бок. Трыццаць пар здзіўлена-зацікаўленых вачэй.

— Знаёмцеся, дзеці… — роўны, ціхі голас сыпаўся цеплынёй і спакоем.

Настаўніца — нібы чараўніца з залаціста-русай касой, прыбранай у прычоску на патыліцы. Зачаравала дабрынёй. Святлана Цімафееўна Сіўцова...*

***

— Света, дачушка, паспрабуй! Ты танюсенькая, як яшчарка, запаўзеш, а я табе пасвячу лямпай, — здалася нарэшце Люба пасля дарэмных спроб пралезці праз вузенькую дзірку пад печ.

За хатай, на агародзе, яна яшчэ з восені змайстравала схованку ў кустах парэчак. Цяпер трэба капаць пад печу, каб атрымаўся лаз на вуліцу. З вялікай рыдлёўкай у цесным падпечку не выпрастаешся.

Васьмігадовая Святлана па чарзе са старэйшай Зіначкай варочала скрабком, калупала збуцвелую зямлю вострай палкай, грабла яе рукамі, насыпаючы на фанерку з вяроўкай. Маці перасыпала грунтавую горку ў кошык, непрыкметна выносіла ў агарод — трэба паспець да змяркання. З надыходам цемры пакідаць дом забаранялася.

З кожным днём лаз даўжэў. Хутка, хутка дзяўчынкі дойдуць да сцяны. Абы не прамахнуліся! Святло ў земляную нару не прабівалася, не праверыш. Капалі навобмацак.

Позна ўвечары, паклаўшы дзяўчынак спаць, Люба шчыльна завесіла акенца коўдрай (пасля дзевяці святло таксама пад забаронай), дастала з-пад груды бялізны радыёпрыёмнік. Перад вайной яго прынёс муж. Мацвей сталярнічаў на «Дрэваапрацоўшчыку», непадалёку ад Камароўкі, а з саракавога — там жа, але ўжо на радыёзаводзе Молатава, у які ператварылі да кастрычніцкага свята лесапільна-мэблевы. Абсталяванне разам з інжынерамі даставілі з Вільнюса. Мацвей жа майстраваў драўляныя карпусы для прыёмнікаў КІМ, «Піянер», «Маршал». Добра майстраваў! Заахвоцілі «Піянерам»...

Люба ўздыхнула: дзе ж гэта цяпер Мацвей? Як сышоў па прызыве на другі дзень вайны, дык ні вестачкі. Ваюе на фронце ці трапіў у акружэнне, а можа, партызаніць? Зірнула на фотакартку ў рамцы, яго ж рукамі створанай, прашаптала: «Жывы, жывы мой родненькі!»

Ласкава правяла далонню па гладка-шакаладным корпусе «Піянера». Дрэва цёплае, нібы жывое. Ляснула ўключальнікам, прыслухалася. Аловак заскакаў паміж радкамі нямецкай лістоўкі, якія раскідвалі самалёты, папярэджваючы, што за кожнага забітага салдата вялікай Германіі будзе расстраляна дзесяць мірных жыхароў, за афіцэра — сто...

Склала лісток, пацягнулася да выключальніка, але рука застыла. Моцны мужчынскі голас па-залізкаўску выводзіў:

*Он из госпиталя ехал,*
*Побывать зашёл к жене, да к жене.*
*Показал, показал ей первый орден,*
*Что на ле… что на левой стороне...*

Разбуджаная песняй, Света прыслухалася, выглянула з-за тонкай фіранкі. Маці, падпёршы падбародак кулаком, ледзь пагойдваючыся ў такт мелодыі, усхліпвала... Матуля! Дзяўчынка праглынула камяк, што падкаціўся да горла, босымі нагамі зашлёпала па халодных дошках падлогі.

— Матуля! — абняла Любу тонкімі, нібы дубчыкі, рукамі. — Ты плачаш?

Жанчына паспешліва выцерла слёзы, прыціснула дачку да сябе. З прыёмніка лілося:

*Обо мне ты не печалься,*
*Я погибнуть не могу, не могу.*
*Бережёт, бережёт от смерти злоба*
*К ненави… к ненавистному врагу…*

«Я загінуць не магу-у-у...» — паўтарыла-праспявала Люба дрыготкім голасам. — І Мацвей мой не можа! Чуеш, дачушка, вернецца татачка дадому...

Дачакаўшыся, пакуль Света, адвярнуўшыся да сцяны, ціхенька засапла, спрытна замаскіравала прыёмнік у кошыку з бялізнай для мыцця, спадзеючыся на нямецкую гідлівасць. Запіску з франтавымі навінамі звыкла схавала ў кухонныя шафы, між талерак. Заўтра дзяўчынкі перапішуць начыста. Трэба паспець да сустрэчы з сувязным з атрада. Абяцалі перадаць партызанскія навіны і паперу для наступных лістовак...

***

Люба выцягнула з печы вялікі закураны чыгунок з кіпенем, ды так і застыла, трымаючы вілачнік над драўляным карытам. Як жа яна забылася кручок на дзверы накінуць? Не выспалася, паднялася на досвітку, змучылася каля печы...

У адчыненыя насцеж дзверы — няпрошаныя госці. Немец з хваравіта-слязлівымі вачыма, двое паліцаяў. Адзін — вёрткі, так і мацае зенкамі па баках. Другі — маўклівы, у кепцы, насунутай да броваў. Фрыц, прызвычаіўшыся да змроку хаты, вяла павёў мутным позіркам па пакоі, шмыгнуў прастуджаным носам, рушыў да печкі. Прыпячатаў далоні да цёплых цаглін, зябка паёжыўся.

Ад напружання рукі ў Любы здрыгануліся, накрыўка на чыгуне зрушылася, металічна віскнула. Немец рэзка ўскінуў аўтамат:

— Was?

Вёрткі паліцай паслужліва падляцеў да жанчыны, сапхнуў гарачую крышку. Пар шыбануў у дашчаную столь. Зверху, нібы буйныя сланечнікавыя семечкі, пасыпаліся са шчылін прусакі. Паліцай брудна вылаяўся і, абтрасаючы з сябе насякомых, адступіў да немца. Той хрыпла зароў: «Verdammt! Ich hasse sie!»**, — з перакошаным ротам выскачыў на двор.

— Цьфу ты, зараза! — замахнуўся на Любу фашысцкі прыхвасцень і рвануў з дома — вінавацца перад начальствам. На хаду загадаў напарніку:

— Міця, правер тут усё!

Прусакі, што падалі ў карыта з мокрай бялізнай, з цяжкасцю валочачы доўгія вільготныя вусы, спрабавалі выбрацца вонкі. Люба вярнула чыгун на загнетку, падхапіла занямелай далонню двух чырвона-карычневых вусачоў, разам з вадой выплюхнула ў кошык, потым яшчэ, яшчэ... Анягож, не сунуцца сюды «спадары»!

— Ніколі не бачыў пан-немец прусакоў? — як быццам асмялела гаспадыня.

Міцяй не адказаў, зазірнуў за прыложкавую фіранку. Дзяўчынкі, забіўшыся ў кут, спалохана пацягнулі на сябе коўдру.

— Чужых у хаце няма? — голас спакойны, без пагроз.

— Не-е-е, — пакруціла галавой Зіна.

Света маўчала, толькі пільна прыглядалася — успомніла гэтага дзядзьку. Ён са школы. Настаўнік фізкультуры. Дзмітрый Мяфодзьевіч... здраднік?!

Паліцай вярнуўся на кухню. Маснічыны глуха стагналі пад нагамі. Адчыніў шафку, загрымеў посудам. У Любы перахапіла дыханне. У наступны момант яна шумна выплюхнула кіпень з чыгуна ў старыя ночвы. Гарачым духам зноў ударыла ў столь.

— Ой! — ускрыкнула яна, адскочыўшы да сцяны. Не столькі баялася апячыся парай, колькі хацела адцягнуць, адвесці ад шафкі Міцяя.

Настаўнік павярнуўся, выпрастаўся. У яго руцэ Люба заўважыла лістоўку...

Аднымі вачыма нечакана загадаў: «Маўчы!», паказаў у бок дзяўчынак, папераджальна-дакорліва паківаў галавой. Азірнуўся на ўваходныя дзверы, вярнуў лісток на ранейшае месца, з сілай зачыніў дзверцы. Прайшоўся па пакоі, адкінуў шторку на печы, штурхануў ботам кошык з бялізнай... Нахіліўшыся да Любы, ледзь чутна шапнуў:

— Па горадзе аблавы. Аперацыя «Zauberflute»***... Атрад СС рыхтуецца да карных экспедыцый у Лагойску, Плешчаніцах, Заслаўі...

У сенцах бразнулі дзверы.

— Ну, што тут, Міцяй? — зазіраючы ў хату, падганяў напарнік-паліцай.

— Нічога!

Калі галасы ў двары сціхлі, Люба бяссільна спаўзла на падлогу. За акном разгаралася красавіцкая раніца. Сонечны прамень слізгануў па стале, мякка асвятліў печку, заблішчаў у салёнай кропельцы на бледнай шчацэ.

— Дзяўчынкі, трэба лаз дакопваць, тэрмінова...

…Прачнулася Света ад мернага шуму за акном: маці чысціла двор. Хутка май, а зіма не здаецца: карыстаючыся начной цемрай, падмарозіла, забяліла веснавую зямлю. Да поўдня, толькі сонейка прыгрэе, снег пацячэ — слабы ён па вясне. Навошта мама пустой працай займаецца?

Пералезла паўз Зіну, што салодка спала пад старой коўдрай, нырнула нагамі ў стаптаныя валёначкі — і на ганак. Пад таропкім бярозавым галяком са сцежкі зніклі сляды, вялікія, мужчынскія. Нехта прыходзіў уночы...

Парыў ветру нечакана ўдарыў Свету па твары, зацьміў ранішнюю свежасць пахам гарэлага. Дзьмула з боку Кааператыўнага завулка. Люба перахапіла трывожны позірк дачкі.

— З танка па хаце стралялі. Усе загінулі...

Дома, пасадзіўшы Святлану насупраць, у які раз навучала:

— Заявяцца немцы — хавайцеся пад печ! Што б ні здарылася... Голасу не падавайце. Выбірайцеся праз лаз — і ў вёску, да цёткі. Дарогу ведаеце...

— Нам, мамачка, яшчэ дакапаць трэба... Трошачкі!

...Фашысты білі ў дзверы прыкладамі.

— Дзе твае вырадкі? — паліцай уварваўся ў дом, балюча штурхнуў Любу ў грудзі. — Дзеўкі твае дзе?!

Забіўшыся ў падпечча, Света не бачыла, як маці павольна паправіла збітую з галавы хустку, спакойна глянула на раз'юшанага паліцая:

— Чаго крычыш? Не глухая. Яшчэ з раніцы сышлі. Дала ім адзёжу бацькаву на хлеб выменяць.

— Пайшлі? А гэта мы зараз праверым! — выслужваўся перад гаспадарамі здраднік.

Паляцела на падлогу ватная коўдра, зваліўся сколаты штыком стары сяннік, закружыўся пух з прабітай падушкі, загрукаталі скінутыя вёдры, перавернутыя ночвы, зазвінеў разбіты посуд, вываліўся з каша «Піянер»...

— Радыё?! — паліцай падхапіў прыёмнік і, зларадна тыцкаючы ім у твар Любе, закрычаў: — Дзе, дзе яны? Усіх на шыбеніцу!

Засопшыся, апусціўся на карачкі, зазірнуў пад печ.

— Чую, чую, тут адроддзе тваё! — шыпеў, тыкаў у падпечку чапялой, падымаючы пыл.



Немцы, трымаючы Любу пад прыцэлам, моўчкі назіралі заператрусам. Паліцай скінуў з пляча вінтоўку. Жанчына скамянела. Божухна, выратуй, захавай, памілуй!

Грымучай змяёй застракатала чарга, завізгалі кулі, узрываючы зямлю, упіваючыся ў цэглу. Дзяўчынкі сціяліся, зажмурыліся. Света здранцвела. Раптоўна наваліўся змрок. Дзіўная цішыня нема зазвінела ў вушах...

Пыл асядаў павольна, тоўстым пластом наліпаў на валасы, вейкі, казытаў у носе. Зіна заціснула рот рукой, каб не выдаць сябе, але ўсё роўна, не стрымаўшыся, чыхнула. Прыціснулася да сцяны, замерла, чакаючы стрэлаў...

Ціха. Паварушыла знямелымі рукамі. Падпаўзла да сястры. Прыслухоўваючыся, прыпала да грудзей... Жывая, жывая!

Асцярожна абняла:

— Цябе не ранілі?

Света пацерла вочы, паміргала, спалохана прыкала палец да вуснаў. Старэйшая слаба ўсміхнулася:

— Пайшлі немцы. Няма нікога...

— А мама?

— Нікога няма...

У трывожнай цішыні раптам загула, завохкала пустая хата. Гул імкліва нарастаў. Зашыпелі, затрашчалі падпаленыя бярвенні...

Дзяўчынкі, не змаўляючыся, кінуліся да тайнага хода.

— Паўзі першая, капай, а я тут буду адграбаць. Хутчэй! — падштурхнула Зіна сястру.

Света ўткнулася ў тупік лаза, адчайна ўпілася рукамі ў сценку. Не адчуваючы болю ад бруду, што набіўся пад пазногці, грабла, грабла... Выгінаючыся яшчаркай, варочаючы нагамі, спрытна прапіхвала зямлю.

— Хутчэй, Светачка, дымна ўжо — задыхнёмся! — маліла Зіна, заходзячыся кашлем.

У хаце павалілася палаючая бэлька, агнём ярка асвяціла падпечча, шыбанула жарам, перахапіла дыханне. Дзяўчынка кінулася ў падкоп...

Веснавое сонца прабівалася скрозь клубы дыму, жадаючы зазірнуць у схованку ў парэчкавым кусце. Света прагна ўдыхала сырое красавіцкае паветра, размазваючы па мурзатых шчоках слёзы.

— Зіна, ачніся, Зіна-а-а...

***

Святлана Цімафееўна прыклала да вачэй прамакатку:

— Колькі гадоў прайшло, — нібы прасіла прабачэння перад прыціхлым класам. Адкрыла кнігу.

— «Руіны страляюць ва ўпор»****. Знаёмая назва? Пра мінскіх падпольшчыкаў. І пра маю маму...

Пра кнігу я не толькі ведала — чытала яе. Але… мама настаўніцы — у кнізе? Падпольшчыца?!

…Усяго год, да пераезду з бацькамі ў Мурманск, пашчасціла мне вучыцца ў Мінску. А роўны, ціхі голас Святланы Цімафееўны і цяпер агортвае мяне цяплом і спакоем.

**Пераклад з рускай мовы Валянціны КУЗНЯЦОВАЙ**

* Імёны ў аповедзе выдуманыя
** — Д'ябал! Ненавіджу іх!
***Аперацыя «Zauberflute» — «Чароўная флейта» — праводзілася ў Мінску з 17 па 22 красавіка 1943 года, яе мэтай было знішчэнне супраціўлення і згон працаздольнага насельніцтва ў Германію.
**** «Руіны страляюць ва ўпор» — дакументальная аповесць Івана Новікава.

# Шыла ў мяшку

Мяркую, сталыя пісьменнікі не стануць крыўдаваць, калі ў гэтым аглядзе ўся ўвага будзе скіраваная на маладых, а менавіта — на пераможцаў Конкурсу маладых літаратараў Саюзнай дзяржавы «Мост дружбы», чые апавяданні надрукаваныя ў чэрвеньскім нумары «Нёмана».

Да літаратурных конкурсаў варта ставіцца калі не скептычна, то з асцярогай, а яшчэ лепш — з гумарам. Не маюць значэння пры гэтым ні прэстыж пэўных творчых спаборніцтваў, ні імёны ўдзельнікаў, ні тое, хто конкурс арганізоўвае. Асабліва, калі размова ідзе пра конкурс для маладых творцаў. Такі ўспрымаецца выключна (закрэслена) часцей за ўсё як раздача авансаў. А ўжо калі назва конкурсу гучыць надзвычай узнёсла і быццам бы шмат да чаго абавязвае канкурсантаў…

Як вы маглі здагадацца, пераможцы конкурсу «Мост дружбы» знішчылі ўсе пералічаныя сумненні. З 14 аўтараў ніводны не апынуўся бездапаможна банальным і нецікавым, а гэта значыць вельмі, вельмі многа. Калі вы адчуваеце непадробную цікаўнасць да героя, калі сюжэт (ці яго адсутнасць) не стамляе праз дзве старонкі, а фінал аказваецца сапраўды нечаканым — не чакана-нечаканым, знарок парадаксальным, што заўжды выдае жаданне пісьменніка здзівіць свайго чытача, хваравітае яго жаданне вылучыцца з шэрагу шэрых аўтараў, — словам, калі вы робіцеся сапраўды чытачом, а не машынкай для аналізу, утравелым скептыкам і г. д. — тады можна казаць пра літаратуру.

Зрэшты, нельга сцвярджаць, што такі вынік конкурсу нечаканы: леташнія яго фіналісты таксама прагучалі як сталыя аўтары, кожны са сваім голасам, і большасць прачытаных твораў памятаецца дасюль — з асаблівасцямі стылю пераможцаў. І гэта пры тым, што імёны саміх аўтараў забываюцца. Што лепш — запомніцца творам ці прозвішчам?

Я дакладна ведаю, што праз год, а магчыма, і болей буду памятаць дакументальнае апавяданне Яўгена Капусціна «Успаміны пра вайну і не толькі». Гэта сапраўды ўспаміны, і належаць яны, калі судзіць па прозвішчах апавядальнікаў, дзядулю і бабулі спадара Яўгена. Аўтар паказаў цудоўнае валоданне не толькі словам, але і інтанацыяй у тым сэнсе, што апавядаючы пра трагічныя падзеі ў жыцці людзей, якія прайшлі Вялікую Айчынную, перажылі яе — ці не перажылі, — ён ні разу не зрываецца на недаравальную сентыментальнасць. Ён ведае, што, калі размова ідзе пра такое, дастаткова слова — але правільнага слова. Шматучым Яўгену Капусціну дапамагла форма твора — маналог старонняга апавядальніка; сам аўтар быццам бы і не ўдзельнічаў у стварэнні тэксту як літаратурнага твора. Натуральна, гэта толькі ілюзія. Да ўсяго, і ўспаміны (калі аўтар не даў волю фантазіі) выбраныя паслядоўна: адзін за адным, чаргуючыся і перакрыжоўваючыся як па часе, так і тэматычна, яны раскрываюць галоўную тэму — жыццё чалавека ва ўмовах, калі смерці больш, чым самога жыцця; маленькія радасці гэтага чалавека і яго быццам бы маленькі гераізм. Эмоцыя, заключаная ў слове, раскрываецца, і жыццё паўстае самім сабою, а не падсалоджанай ці манахромнай копіяй.

> *Адрозны ад усіх пераможцаў, сімвалічны, яркамоўны Андрэй Дзічэнка (апавяданне «Еўропа»), які ў параўнанні з іншымі не выглядае аптымістам ці хоць бы натхнёным маладзёнам: гэта ці не самы сталы ў падборцы аўтар, які ведае, што хоча сказаць, і кажа менавіта так, як хацеў гэта зрабіць.*

Больш сентыментальны аповед беларускі Кацярыны Фядотавай. «Мар'іна восень» — гісторыя ціхага згасання жыцця і, у самы момант гэтага згасання, яго бясконцасці, перанараджэння ў сонцы, травах, словам, у нашым свеце. Гэта — кульмінацыя, і наступае яна напрыканцы апавядання. Да таго мы марудна, крок за крокам ідучы за старой Мар'яй (а крок у яе павольны), угледаемся разам з ёю ў штодзённыя рэчы, у мінулае, у цемру, дзе хаваецца адзіная жывая істота — стары Кот. Апавяданне мае шмат кранальных апісанняў, заўваг, але асаблівым падаецца момант, калі Мар'я, збіраючыся спілаваць яблыневы сук, паклала на яго руку і падзівілася — «цёплы». Жыццё і адміранне адначасова і кантраснуюць у творы, і дапаўняюць адзін аднаго.




Яшчэ больш прыроднай сілы і прыроднай алегорыкі — звярыная сцяжына, самотны ястраб, папялішча ды інш. — у аповедзе Ільі Луданава, які так і завецца — «Звярынай сцяжынай». Боль і шкадаванне пра страчанае мінулае — ці яшчэ не страчанае? — заключаныя ў кожным радку апавядання. Вікторыя Сінюк («Расшукваецца філосаф») сцвярджае гуманістычны пачатак у развіцці чалавецтва, значнасць гуманістычнай маралі і светлых, шчырых пачуццяў, што і адрозніваюць Чалавека. Твор мае не зусім выразны фінал, які мусіў бы выглядаць адкрытым, але здаецца толькі абарваным, недапрацаваным; тым не менш думка аўтаркі ад гэтага не церпіць, і апавяданне адразу ж прыводзіць на розум маналог Чарлі Чапліна з фільма «Вялікі дыктатар».

Да прыроднага пачатку вяртае нас Алёна Папко («Ваўчыца»), у той час як Георгій Фамін («Ілюзія карыснасці»), дакладней, яго герой, цалкам і без астачы сыходзіць у сябе, як і герой Вячаслава Котава («Аўтаадказчык»).

Адрозны ад усіх пераможцаў, сімвалічны, яркамоўны Андрэй Дзічэнка («Еўропа»), які ў параўнанні з іншымі не выглядае аптымістам ці хоць бы натхнёным маладзёнам: гэта ці не самы сталы ў падборцы аўтар, які ведае, што хоча сказаць, і кажа менавіта так, як хацеў гэта зрабіць. Яго аповед на парадак больш складаны за іншыя творы пераможцаў конкурсу, але і ўражанні па сабе ён пакідае цяжкія.

Сям'я, каханне, няўмольнасць і літасць лёсу — тэмы апавяданняў Ірыны Іваннікавай («Валошкавыя душы»), Аляксея Старухіна («Пульс на мяжы захаплення»), Елізаветы Ражковай («Ты завешся богам»). Больш чым пра каханне — «Я бачыў учора» Юліі Багданавай і аповед Марыі Пярвушынай «Цішыня і я», які дзівакавата-дзікаватымі героямі нечакана нагадвае «Байцоўскі клуб» Паланіка. Пакідае пытанні аповед Таццяны Захаранка «Кара нябесная», а менавіта: што прымусіла маладую дзяўчыну выбраць такі час для аповеду і такую тэму?..

Кожны з твораў варты больш падрабязнага разгляду, і кожны з маладых аўтараў варты быць прачытаным, бо ніякі разгляд не заменіць сам мастацкі тэкст. Але пэўна можна сказаць адно: якім бы змрочным ні малявалі маладыя пісьменнікі свет, усе яны вераць у лепшае. І гэта бачна — як бы аўтары ні стараліся давесці зваротнае.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Крумкачы над дарогай

Тэма Вялікай Айчыннай вайны — адна з найбольш значных у беларускай літаратуры і адна з самых распрацаваных. Пра вайну пісалі як яе непасрэдныя ўдзельнікі, так і «назіральнікі» — тыя, каго вайна заспела ў дзіцячым ці падлеткавым узросце. Да апошніх належыць Барыс Беляжэнка, зборнік прозы якога «Дарога Бачэйкава — Бешанковічы» выйшаў з друку ў 2014 годзе.

Вядома, дзіцячыя пачуцці самыя яркія, самыя вострыя. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Барысу Беляжэнку было чатыры гады.

Ужо ў прадмове да чытача і апавяданні «Сон бегства» адчуваецца ўзрушанасць аўтара, між тым галоўная рыса твораў Б. Беляжэнкі — дакументальнасць («Родны мой Васілёк», «Памяць», «Дзеці на дарогах вайны»). Галоўную ролю тут іграе герой-відавочца. Вось як апісвае аўтар пачатак вайны: «У нядзелю, 22-га чысла, быў ясны сонечны дзень. Мы жылі ў Бачэйкаве, і бацькі ўзялі мяне на прагулку. Калі мы ўзышлі на мост цераз раку Вулянку, мне карцела рукамі пакратаць велізарную жалезную ферму». Калі бацька падняў сына, хлопчык пачуў крыкі, гучныя рыданні і плач жанчын. Людзі выбягалі на вуліцу і хутка запоўнілі яе ўсю, ад рэчкі да скрыжавання на ўзвышшы. Барысу здалося, што сонечны дзень раптам сцямнеў.

Вачыма хлопчыка мы бачым бежанцаў на дарогах, праз яго чуем гул варожых гармат пад Лепелем, адчуваем жах, калі дзіця разам з бабуляй Праскоўяй гоняць у агонь палаючых хат вёскі Прымыслы.

Піша Б. Беляжэнка і пра здраднікаў, што служылі фашысцкай уладзе. Вайна, якая заспела людзей нечакана, выкрыла ў іх баязлівасць, раней не заўважаную імі самімі. І пісьменнік бескампрамісна асуджае іх.

Вайна разбівала шчаслівае маленства дзяцей, многія з якіх у барацьбе з акупантамі сталі ўпоплеч з дарослымі. Пра такіх дзяцей апавядае Барыс Беляжэнка ў творы «Дзеці на дарогах вайны»: пра рускага хлопчыка Валодзю Ампілогава, пра жыхароў Бешанковіцкага краю Тамару, Надзю і Клаву Барчанка са Слабады, Міхаіла Хадыку з вёскі Гародна, пра Васіля Мішкурова з вёскі Жавуры, Мікалая Лабанава са Слабодкі, Ніны і Мікалая Варахобкаў з Лабачова, Ніны і Соні Гарбуковых з вёскі Лучкі.

Пры гэтым успаміны дзіцяці суправаджаюцца разважаннямі аўтара-дарослага, што дадае псіхалагічна моцным і яркім момантам пераканаўчасці.

Другая частка зборніка «Дарога Бачэйкава — Бешанковічы» — мастацкія творы ваеннай тэматыкі, у якіх вайна раскрываецца праз невымернасць людскіх стратаў, вялікі чалавечы боль.

У апавяданні «Мішэні» аўтар паказвае расправу паліцая Пупянка над яўрэйкай Рытай і яе дачкой. Вялікую сэнсавую нагрузку нясуць у творы дыялогі, якія звычайна складаюцца з кароткіх, выразных рэплік і варожых выкрыкаў «Стой! Уставай! Ідзі! Паўзі!», што ўзмацняе гнятлівае ўражанне.

Аснову аповесці «Стогны возера» склалі ўспаміны былога партызана Дамініка Моўжы. У вёсцы Валынаўка фашысты стварылі лагер для ваеннапалонных, куды трапляе ткачыха Васіліса. Начальнік лагера Аўгуст Брэдэль прымушае яе разам з іншымі нявольніцамі ткаць дываны. У хуткім часе ён прыводзіць да яе дачку Надзею, каханую партызана Дамініка.

> *Сімвалічная назва кнігі: дарога — старажытны сімвал, які ў літаратурным творы ўспрымаецца як жыццёвы шлях героя, народа ці цэлай дзяржавы. У кнізе Барыса Беляжэнкі дарога сімвалізуе рух, пошук, выпрабаванне. Дарога — месца, дзе праяўляецца лёс.*

Праз учынкі Васілісы аўтар раскрывае яе «маральны свет»; гэтак жа вымалёўваюцца і іншыя героі, у тым ліку — духоўна слабыя, такія, як Аўдакім Каваль, што прыстасоўваўся да абставін, дбаючы толькі пра сябе.

Трагічны фінал аповесці — трагедыя самой вайны, якая бязлітасна руйнавала людскія лёсы, сціраючы радасць кахання.

З іншага ракурсу аўтар глядзіць на вайну ў апавяданні «Лазня для пана салдаціка», дзе створаны вобразы дзесяцігадовага нямецкага салдаціка Франца, сына загінулага нямецкага афіцэра, і шасцігадовага Паўліка. Пісьменнік паступова разгортвае канфлікт паміж дзецьмі, які заканчваецца трагедыяй. Вораг з'яўляецца галоўным героем у апавяданнях «Апошняя вестка Готлібу» і «Запознены роздум Курта Кругера». Тэма асабістага чалавечага шчасця гучыць найбольш драматычна ў апавяданнях «Дзе ты, Сінічка?» і «Дажынкі 1944-га».

Б. Беляжэнка разгортвае падзеі храналагічна, а сама дзея разбіваецца на некалькі «фаз», якія дынамічна змяняюць адна адную. Вялікая нагрузка пры гэтым ускладаецца на дзеясловы: з іх дапамогай аўтар фіксуе ўвагу на дзеянні.

Сімвалічная сама назва зборніка «Дарога Бачэйкава — Бешанковічы». Дарога — старажытны сімвал, які ў літаратурным творы ўспрымаецца часцей за ўсё як жыццёвы шлях героя, народа ці цэлай дзяржавы. У кнізе Б. Беляжэнкі дарога сімвалізуе рух, пошук, выпрабаванне. Дарога — месца, дзе праяўляецца лёс. Дарога стала сведкам подзвігаў дзяцей-падлеткаў; на дарозе чыніць забойства паліцай Пупянок; чакаюць сваіх сыноў з франтавых дарог Праскоўя і Мікіта, а паштарка, ідучы па дарозе, нясе пахаванку на абодвух.

Не менш выразна прасочваецца вобраз-сімвал крумкача, які прымушае чытача падрыхтавацца да трагічнага павароту падзей. Аўтар робіць выснову, што крумкачы — параджэнне войнаў. Ён параўноўвае фашысцкія самалёты з крумкачамі. З вобразам змрочнай птушкі сустракаемся мы і ў аповесці «Стогны возера»: крумкачом звалі гарбатага Аўдакіма Каваля, які ў час вайны стаў надзейным стражнікам гітлераўскага «новага парадку».

Вайна з яе крызіснымі сітуацыямі, у якія трапляе чалавек і ў якіх найбольш ярка выяўляецца яго сутнасць, дае аўтару багаты матэрыял для асвятлення маральных праблем — праблем, актуальных і ў мірны час.

**Ала АРЛОВА**

# Хто скраў паэму?




У шостым нумары «Полымя» распачынаецца дзённік Віктара Шніпа «Заўтра была адліга-2», працягваецца раман Уладзіміра Гніламёдава «Пасля вайны» і завяршаюцца ўспаміны Льва Коласава «Акупацыя».

Падчас вайны аўтар «Акупацыі» быў цікаўным рызыкоўным лунінецкім хлапчуком — удзельнікам ці сведкам многіх нібыта нязначных падзей мястэчковага жыцця. Вучыўся ў створанай акупантамі ўкраінскай школе па падручніку «Кабзар», зазіраў у кінатэатр, дзе круцілі прапагандысцкія стужкі, прыводзіў свайго сабаку для адбору на адмысловую «ваенную службу».

На сценах лунінецкіх дамоў віселі плакаты з залатакосымі нямецкімі жанчынамі і белакурымі салдатамі, на службу ў мясцовую царкву прыходзілі расакватараваныя ў горадзе казакі, якія чынна ўдзельнічалі ў набажэнстве... Успаміны Льва Коласава — гэта гісторыя паўсядзённасці акупаванага беларускага мястэчка, дзе пад вальсы Штрауса нямецкія камандзіры гулялі са сваімі «фрау», а праз некалькі вулак у лагеры для ваеннапалонных галадалі савецкія салдаты. Аўтар дакладны ў вызначэнні дат, прозвішчаў, назваў вайсковых падраздзяленняў. Разам з тым у творы шмат непасрэдных асабістых уражанняў і заўваг, зробленых хутчэй колішнім хлапуком, а не сталым чалавекам...

> *«Успаміны Льва Коласава — гісторыя паўсядзённасці акупаванага беларускага мястэчка, дзе пад вальсы Штрауса нямецкія камандзіры гулялі са сваімі «фрау», а праз некалькі вулак у лагеры для ваеннапалонных галадалі савецкія салдаты. На сценах Лунінецкіх дамоў віселі плакаты з залатакосымі нямецкімі жанчынамі і белакурымі салдатамі, на службу ў мясцовую царкву прыходзілі расакватараваныя ў горадзе казакі, якія чынна ўдзельнічалі ў набажэнстве...*

Падборка Генадзя Аўласенкі, вершы Васіля Зуёнка «Адмаўленне ад раю», «Грэх», «З Мачулішча ў Грэкі...» — узор той «традыцыйна зямной у сваёй сутнасці паэзіі», якую крытык Алесь Марціновіч супрацьпастаўляе «мітусліваму эксперыментатарству». Праўда, зварот да традыцыйнай ці эксперыментальнай формы верша не гарантуе чытачам добрага твора — справа хутчэй у меры таленту, глыбіні пачуцця ці думкі, арыгінальнасці вобразных знаходак. На жаль, «танныя падробкі» пад мастацтва сустракаюцца ў розных аўтараў незалежна ад абранага імі ладу паэзіі... Рэцэнзія А. Марціновіча «З голасам чыстым і звонкім» прысвечаная творчасці Генадзя Пашкова, а пад загалоўкам «Сейбіт на ніве беларускасці» хаваецца расповед Эмануіла Іофе пра вучонага-гуманітарыя, літаратара і грамадскага дзеяча Ігната Дварчаніна.

Ігнат Дварчанін — не самая вядомая асоба з літаратурнага жыцця Беларусі 1920-х гг. Сын малазямельнага арандатара, студэнт пражскага Карлава ўніверсітэта, ён напісаў першую пасля П. Уладзімірава дысертацыю, прысвечаную Ф. Скарыне, а ў 1927 г. выдаў у Вільні «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры».

Алесь Маліноўскі на некалькіх «Палымяных старонках» згадвае творчасць Андрэя Макаёнка і публікацыю дзённікаў Варлена Бечыка «Радкі і жыццё», слушна звяртае ўвагу на праблему гэтага жанру. «Сцвярджаць, што дзённікі апрыёры асуджаны на шырокую чытацкую ўвагу, досыць рызыкоўна. Па-першае, гэта ў значнай ступені залежыць ад асобы аўтара. Па-другое, многія дзённікі найперш прыцягваюць увагу сваёй факталагічнай насычанасцю, што выклікае да іх кароткачасовую цікавасць, якая змяншаецца па меры таго, як мы даведваемся пра тое ж больш шырока і з іншых крыніц, ці па меры таго, як факты страчваюць сваю актуальнасць».

Адна з найцікавейшых публікацый нумара — артыкул Анатоля Трафімчыка, прысвечаны рэдакцыям паэмы Я. Коласа «Сымон-музыка». Даследчык звяртаецца да праблемы «перапісвання» твора і ставіць пад сумнеў версію крадзяжа паэмы: падрабязна распавядае пра адпачынак Коласа ў Кіславодску, цытуе лісты класіка і выказванні на гэтую тэму блізкіх яму людзей. У выніку А. Трафімчык прыводзіць шэраг аргументаў, якія могуць абвергнуць агульнапрынятую гісторыю другой рэдакцыі «Сымона-музыкі». Высновы, вядома, застаюцца гіпатэтычнымі, але пераварэнне літаратуразнаўцы ў дэтэктыва заўсёды абяцае займальны расповед!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Сагрэтыя ўсмешкай




Чэрвеньскі нумар часопіса разам са сваімі чытачамі ў поўным узбраенні гатовы сустрэць сонечнае надвор'е і ўсе яго прыемныя наступствы: пляж, загар, купанне… Сапраўды, з «Вожыкам» «Лета — усмешкамі сагрэта»! Такую назву мае чарговая міні-кніжка, якая стварыць для вас летнюю атмасферу.

Водпуск прыпадае на адзін з летніх месяцаў? Пашанцавала! Галоўнае не правесці яго так, як наш ленаваты герой: «— Як твой адпачынак? — Выдатна! Валяўся на мяккай канапе, купаўся ў ванне і хадзіў на экскурсіі ў мясцовыя супермаркеты». Зрэшты, пазнаёміўшыся з вершам Уладзіміра Цануніна «Вось дык адпачылі!», разумееш, што гэта яшчэ не самы дрэнны варыянт. Упэўнена: гісторыя, апісаная аўтарам, здаралася ў жыцці многіх з нас.

Пазнаць сябе ці кагосьці са знаёмых можна і ў іншых «летніх» творах. Мужчынам, якія любяць пасядзець з вудою ля ракі, раю пазнаёміцца з творам Андрэя Сідарэйкі «Ці ёсць зялёныя чалавечкі?». «Пры чым тут іншапланецяне?» — здзівіцеся вы. Адказ знойдзе толькі той, хто дачытае твор.

Для тых, хто аддае перавагу выяўленчаму жанру, пастараліся мастакі-карыкатурысты Руслан Богуш, Павел Гарадцоў і Аляксандр Каршакевіч. З падборкі «Рыбацкія байкі» вы даведаецеся пра некаторыя тонкасці добрага ўлову, у прыватнасці, як легальна вудзіць у забароненых месцах.

Каму лета — пляж, а каму — і дача! У дарогу на любімыя соткі прыхапіце з сабою вясёлага калючага сябра. Усмешкі вам гарантуюць Вольга Сакалова і Лёля Багдановіч.

Не забываецца «Вожык» і пра класікаў літаратуры, якія ў свой час пісалі ў гумарыстычным жанры. Чэрвеньскі нумар змяшчае ўрывак з аповесці Кузьмы Чорнага «Вяселле ў Скіп'ёўскім перабродддзі», верш Петруся Броўкі «Некаторым дачушкам» і ўрывак з апавядання «У палоне выхавання» Лідзіі Арабей.

Выдатную супрацьстрэсавую тэрапію атрымаць лёгка: трэба толькі аформіць падпіску. Так робіць, напрыклад, наш пастаянны аўтар Людміла Юшына, якая з уласнага вопыту раіць чытачам: «Выпішы «Вожык» — забудзь пра аптэкі: / Гумар заменіць найлепшыя лекі».

**Вераніка МАНДЗІК**

# Лета — час «Маладосці»




Сустрэча Васіля Быкава і Алеся Адамовіча са студэнтамі журфака БДУ — такім здымкам адкрываецца чэрвеньскі нумар часопіса «Маладосць». Арганізоўвала сустрэчу прафесар Еўфрасіння Бондарава: яна ладзіла такія мерапрыемствы для будучых журналістаў рэгулярна. І калі глядзіш на фота, робіцца крыху сумна, што жывых класікаў з кожным годам застаецца ўсё менш, а літаратурныя сустрэчы са студэнтамі здараюцца не так часта, як хацелася б.

Затое з кожнай перагорнутай старонкай часопіса сум развейваецца — сучасная беларуская літаратура адкрывае новыя імёны маладых і таленавітых аўтараў, якія, магчыма, таксама стануць класікамі. Але ўсяму свая чарга.

Апошнім часам назіраецца вельмі прыемная тэндэнцыя ў фотамастацтве: з'яўляюцца цікавыя асобы, праводзяцца выстаўкі, конкурсы ды іншыя імпрэзы. Варта адзначыць, што культурнае жыццё віруе не толькі ў сталіцы. Фотамастак Дзмітрый Лось адкрыў у Віцебску незвычайную выстаўку пад назвай «Правінцыя». Ён злучыў фотаобразы з аўдыявізуальнай стужкай. Атрымаліся не проста фотаздымкі, да якіх мы ўжо прызвычаіліся, а тэатр у фотакартках. Развагі Дзмітрыя наконт правінцыйнасці мыслення, дакументальнасці мастацтва, а таксама адказы на складаныя філасофскія пытанні можна знайсці ў інтэрв'ю Паліны Лісоўскай.

Не менш цікавая гутарка атрымалася ў Тамары Мінютка з хімікам Багданам Ранішэнкам. Здавалася б, якое дачыненне гэтая навука мае да літаратурна-мастацкага часопіса? Урэшце адказ на пытанне знаходзіцца: хімія — тая ж паэзія, стройная, рытмічная, загадкавая і філасофская, якая недаступная кожнаму, але той, хто зразумее яе і раскрыў сваё сэрца, спасцігае сакральныя таямніцы гэтага свету.

> *«Вельмі яркім атрымаўся празаічны дэбют Крысціны Бандурынай — даўно не даводзілася чытаць такіх геніяльна простых тэкстаў. Апісваючы шараговыя выпадкі з жыцця, аўтарка знаходзіць нагоду для рэфлексіі, настальгіі. Узяць хоць бы эпізод з маленькай дзяўчынкай у банкаўскай чарзе: дзіця выклікае ў галоўнай гераіні хвалю светлых і цёплых пачуццяў, што сведчыць пра добрае сэрца не столькі персанажа, колькі маладой пісьменніцы.*

Але вернемся да літаратуры. Упершыню ў «Маладосці» можна пазнаёміцца з паэткай Наталляй Алейнікавай і нізкай яе вершаў «Сонейка п'е вечаровы кагор». Творы Наталлі вылучаюцца неверагоднай дакладнасцю: аўтарка вельмі ўважлівая да дэталяў, кожны радок выпісаны з такой стараннасцю, тонкасцю, што можна не толькі ўявіць восеньскі бор, пачуць шэпт дубовай ліствы, але нават адчуць дзіўны чаромхавы пах травеньскай ночы. Пры гэтым вершы вельмі лірычныя і пяшчотныя, якія і бываюць звычайна ў маладой і таленавітай дзяўчыны.

Вельмі яркім атрымаўся празаічны дэбют Крысціны Бандурынай. Па шчырасці, даўно не даводзілася чытаць такіх таленавіта простых тэкстаў. Апошнім часам маладыя аўтары імкнуцца да арыгінальнасці, складаных сюжэтаў і форм, перанасычаюць свае творы мастацкімі сродкамі выразнасці і ўсялякімі прыёмамі, але забываюць пра самае галоўнае — сэнс. Тэксты, можа, і атрымліваюцца прыгожымі і вытачанымі, але ў іх няма, як бы банальна гэта ні гучала, душы.

Дык вось, усяго гэтага акурат не скажаш пра два невялікія апавяданні Крысціны Бандурынай. Апісваючы шараговыя выпадкі з жыцця, аўтарка знаходзіць нагоду для рэфлексіі, настальгіі. Узяць хоць бы эпізод з маленькай дзяўчынкай у банкаўскай чарзе. Большасць з нас не звярнулі б увагу на занадта актыўнае дзіця ці ўвогуле сталі б злавацца. А ў галоўнай гераіні дзяўчынка выклікала хвалю супярэчлівых, але разам з тым вельмі светлых і цёплых пачуццяў.

Адкрыццём нумара стаў ТАТМІР — гомельскі літаратурны дуэт Дар'і і Уладзіміра Чараўхіных. Гэта зусім асобны, трэці творца, з прысутнымі толькі яму рысамі, не ўласцівымі нікому са стваральнікаў яго аўтараў. Лірычнае, крыху падзіцячы наіўнае апавяданне «Дзень нараджэння» калі і не кожнаму спадабаецца, то прынамсі ўсякага прымусіць усміхнуцца.

Прыхільнікаў творчасці Арцёма Кавалеўскага чакае прыемны сюрпрыз — нізка новых вершаў. А для аматараў вышытаўчонай прозы рэдакцыя «Маладосці» падрыхтавала неверагодныя метагістарычныя эцюды Міколы Каляднага. Перакладчыкі МДЛУ парадавалі вандроўнымі нататкамі Пола Дж. Уіліса, а Маргарыта Дзяхцяр — таленавітай кінакрытыкай. Словам, шосты нумар «Маладосці» атрымаўся сакавітым, яркім і па-сапраўднаму летнім!

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# На два словы

**Цікавая знаходка з'явілася ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі — выданне з невядомым раней аўтографам Максіма Багдановіча. Культуролаг, старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, намеснік дырэктара галоўнай кніжнай скарбніцы краіны Алесь Суша раскрыў таямніцу «невялікай, але каштоўнай цагліны ў выбудоўванні багдановічазнаўства».**

Гутарка ідзе пра навукова-папулярную працу Максіма Багдановіча «Беларускае адраджэнне», якая стала маніфестам беларускага руху на пачатку мінулага стагоддзя. «Кніга даволі вядомая, але ў яе гісторыі, тым не менш, багата белых плямаў. Той самы экзэмпляр з аўтографам паэта, які знайшлі ў бібліятэцы, — рускамоўнае выданне 1915 года. Па змесце яно нічым не адрозніваецца ад надрукаванага ў часопісе "Украінское жыццё" аднайменнага артыкула. Гэта асобны адбітак з часопіса», — зазначыў Алесь Суша.

Што ж напісаў Максім Багдановіч на друкаваных старонках сваёй працы? Аказваецца, усяго два словы, у самым пачатку, перад першым абзацам: «Для отзыва». «Раней на гэты аўтограф асаблівую ўвагу не звярталі — ён надта кароценькі, лёгкі і ненавязлівы. Але мы высветлілі, што гэтыя словы дакладна напісаныя рукою аўтара. Дастаткова згадаць яго каліграфічны почырк у знакамітым зборніку "Вянок", што таксама захоўваецца ў нашай бібліятэцы», — прызнаўся Алесь Суша.

Знаходка выглядае сціплай толькі на першы погляд — насамрэч любыя «сляды» класіка могуць паведаміць ці нагадаць нам, сучаснікам, шмат ціка-вага. Хаця б пра тое, што доўгі час заставалася адным з самых складаных пытанняў: ці меў Максім Багдановіч дачыненне да пашырэння свайго знакамітага твора ў тагачаснай Расійскай імперыі, яе навуковых колаў, і за мяжою? Цяпер можна з упэўненасцю сказаць, што меў. А яшчэ: абсалютна дакладна, што паэт актыўна ўдзельнічаў ва ўсім дзяржаўна-культурным будаўніцтве, якое літаральна «выбухнула» пасля выхаду «Беларускага адраджэння». Дзякуючы ў тым ліку і аўтографу, можна сцвярджаць, што Максім Багдановіч чынна працаваў над гэтай брашурай ужо пасля яе выхаду ў друк, накіроўваў працу на рэдагаванне і рэцэнзаванне сваім знаёмым, у тым ліку вядомым на той час навукоўцам — мабыць, менавіта таму яна некалькі разоў перавыдавалася. Магчыма, дзякуючы гэтаму асобніку з аўтографам паэта «Беларускае адраджэнне» пабачыла свет і за межамі Расійскай імперыі — яно было двойчы выдадзена ў перакладзе на ўкраінскую мову ў Вене ў 1916 г.

«Максім Багдановіч напісаў паўнацэнны нарыс гісторыі культуры Беларусі, цэлую культуралагічную канцэпцыю краіны, апісаў ход развіцця беларускай мовы і літаратуры ў кантэксце агульнакультурнага развіцця. Да паэта гэтага ніхто не рабіў. Такім чынам, даследчык упісаў беларускую культуру ў агульнаеўрапейскі кантэкст, вызначыў яе як самастойную, самабытную, а ў некаторыя перыяды — і як самую развітую з усходнеславянскіх», — распавёў Алесь Суша.






*«Беларускае адраджэнне» з аўтографам аўтара.*

Час, які Максім Багдановіч назваў беларускім адраджэннем, прыпадае на XVI — першую палову XVII стагоддзя. Высновы даследчыка зыходзілі ў асноўным з моўнага фактару, галоўнага, на яго думку, для культурнага развіцця кожнага народа. «Найбольшым дасягненнем для ўсіх еўрапейскіх культур, адпаведна, у Багдановіча быў адыход ад мёртвай лаціны да жывых гаворак. Тым не менш нельга, карыстаючыся гэтай думкай, лічыць, што ў XVIII стагоддзі, калі існавалі цяжкасці з афіцыйным ужываннем беларускай мовы, у сферах музычнага, тэатральнага мастацтва, кнігадрукавання, архітэктуры, рэлігійнага жыцця беларусаў назіраўся крызіс», — канстатаваў Алесь Суша.

Тым не менш праца Багдановіча вызначыла не толькі навуковых даследаванні беларусазнаўчага кшталту ў XX стагоддзі, але і ўвесь працэс нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва ў канцы 1910 — пачатку 1920-х гадоў.

Менавіта дзякуючы паэту беларуская літаратуразнаўчая дыскусія скончылася добрай высновай: наша літаратура можа выйсці на якасна новы ўзровень, прафесійны і мастацкі, замест апісальнага аповеду і тужлівага плачу па гаротным лёсе народу, а беларуская культура мае багатыя гістарычныя карані, якія з'яўляюцца падставай для яе далейшага паспяховага развіцця.

«Варта дадаць, што Максім Багдановіч напісаў сваё «Беларускае адраджэнне» для вялікай аўдыторыі, — каб ідэя самабытнасці беларусаў была зразумелая ўсяму народу. У справе пашырэння гэтай ідэі даследчык і паэт працаваў не менш, чым у справе яе пераасэнсавання. І гэты аўтограф таму сведчанне. Нездарма бурныя час, на які прыпадае творчасць Багдановіча, сёння мы называем перыядам новага беларускага адраджэння», — падсумаваў Алесь Суша.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Прачнуцца з Купалам,

## або Славацкія сны аб Беларусі




Культурна-адукацыйны і выставачны праект «Славацкімі шляхамі Янкі Купалы» — з'ява ўнікальная. Сапраўды, калі яшчэ ўгодкі падарожжа творцы адзначаліся міжнароднай вандроўкай па ягоных слядах? Дзякуючы Дзяржаўнаму літаратурнаму музею Янкі Купалы, Пасольству Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь і нашай амбасадзе ў Славакіі, а таксама плённай дзейнасці ўсіх зацікаўленых асоб як з беларускага, так і са славацкага боку, падобная па-дзея адбылася.

Так, гэта была ўжо іншая Славакія, не надта падобная на тую, што пабачыў у 1935 годзе класік, але сённяшнюю дэлегацыю, у якую ўвайшлі, як і 80 гадоў таму, пісьменнікі і журналісты, тут сустракалі не менш зацікаўлена. Калі б не строгі графік, у кожным мястэчку можна было б затрымацца не менш як на тыдзень: наведаць, прыкладам, Гарадскую бібліятэку Браціславы, дырэктар якой Юрай Шэбеста падчас прыёму беларусаў у мэрыі быў надзвычай рады атрымаць у падарунак стос айчынных кніг. Як прызнаўся ў прыватнай гутарцы спадар Юрай, ён крыху знаёмы з беларускай літаратурай, але ўсё трымаецца выключна на асабістых кантактах. Асаблівым чынам кніжніца зацікаўлена ў перакладах беларускіх творцаў на славацкую мову. На жаль, за апошнія два дзесяцігоддзі, у сувязі з распаўсюджваннемінтэрнэтуізніжэннем накладаў, колькасць наведвальнікаў бібліятэк паменшылася практычна ўдвая. Магчыма, менавіта пераклады (з беларускай!) змогуць змяніць сітуацыю да лепшага.

А пераствараць айчынную літаратуру ў Браціславе ёсць каму. Прынамсі, тут жыве і выкладае славянскія мовы ва Універсітэце філасофа Канстанціна ў Нітры беларуска Наталля Корына — спадарыня Наталля з увагай перагледзела прэзентаваную бібліятэчку і, здаецца, штосьці для сябе адклала — на пераклад… Увогуле ж, кнігі ў гэтай краіне можна пабачыць і ў вулічнай шафе ў Браціславе, і на падаконніку гатэля ў Пешцяні, і, натуральна, у бібліятэках. Мы наведалі розныя — школьныя і гарадскія, — але паўсюль бачылі кнігі аднолькава… зачытаныя. Магчыма, гэта сведчыць і пра тое, што фонды бібліятэчныя абнаўляюцца не так хутка, аднак мне хацелася б верыць, што славацкі чытач проста вельмі любіць кнігу. Тым больш тут з дзяцінства выхоўваецца да яе самае пашанотнае стаўленне.



Малыя прыходзяць у бібліятэку, дзе можна пачытаць, схаваўшыся ў «норку» — адпаведны куток, у якім можна застацца сам-насам з любімымі героямі, а можна пагуляць у дэкарацыях казак, паспяваць народныя песні ці нават — паспаць… на падушцы са здымкам аўтара ўлюбёнага выдання — цудоўная, як мне падаецца, акцыя «Заснуць з кнігай», якую ад Пешцянскай гарадской бібліятэкі маглі б пераняць і айчынныя кніжніцы. Я б асабіста не адмовілася ад падушачкі з выявай Янкі Купалы…

Падчас вандроўкі Купала не надта імкнуўся выступаць, беларуская дэлегацыя таксама старалася больш паслухаць сваіх славацкіх калег — аказваецца, праблемы ў нас практычна адны і тыя ж: пошук згоды, шлях да чытача, клопат пра выданне кнігі… Дарэчы, як прызнаўся аўтар вельмі сімпатычнага выдання, сусветна вядомы астраном Войцэх Рушын, фотаальбом «Паэзія чалавечай душы» каштаваў яму каля 10 тысяч еўра, так што навукоўцу давялося шукаць спонсараў, каб здзейсніць сваю мару — паказаць абліччы людзей, якіх ён сустракаў падчас сваіх шматлікіх вандровак па свеце. Пачалося ўсё з дзяўчынкі, якую спадар Войцэх убачыў у Бамбеі ў 1980-м. «Чаму я фатаграфую твары? Таму што на іх адбіваюцца душы!» Наклад выдання — тысяча асобнікаў — разышоўся на працягу года, і цяпер аўтар працуе над новай кнігай, дзе будзе 120 здымкаў з 184 краін свету і крыху падарожных нататак. На пытанне, ці піша вершы той, чыя асноўная праца — глядзець на сонца, спадар Войцэх прызнаўся, што ніколі не спрабаваў, але неяк планаваў выдаць кнігу здымкаў, аздобленых радкамі свайго сябра-паэта. На жаль, той пакінуў гэты свет. Але астраном-фатограф спадзяецца на тое, што яго работы неўзабаве пабачаць і беларускія гледачы. Пра сваю фотавыстаўку ў Купалавым доме Войцэх Рушын дамовіўся з дырэктарам музея Аленай Ляшковіч. Магчыма, тут знойдуцца і вершы, вартыя яго здымкаў!

Цікава, але (дзякуй інтэрнэту!) нідзе ў час вандроўкі ў нас не спыталі, хто такі Янка Купала. Паўсюль яго імя выклікала толькі прыхільныя позіркі. Хочацца верыць, што веды пра нашага класіка будуць пашырацца і гэтаму паспрыяе ўсталяванне мемарыяльных дошак (а можа, і помнікаў) па маршруце, якім у кастрычніку 1935 года прайшоў Купала. Насамрэч, зараз справа за беларускім бокам. «А беларусы нікога ж не маюць, няхай жа хоць будзе Янка Купала», — пісаў стагоддзе таму Паэт, не ведаючы, што для сваіх нашчадкаў ён стане — УСІМ.

**Таццяна СІВЕЦ,**
**фота аўтара**

*Браціслава — Мінск*

*Унікальны праект*

# Мы — адметныя!



*Ладья сокровищ: произведения белорусских писателей XIX — начала XX века. — Минск: Беларусь, 2015. — 319 с.*

Апошнім часам у культурнай прасторы Беларусі ўсё часцей вядуцца дыскусіі пра тое, у чым заключаецца адметнасць нашай нацыі, нашай нацыянальнай ідэі і як адбываўся працэс беларускай самаідэнтыфікацыі. Многія з удзельнікаў абмеркаванняў час ад часу апелююць да твораў літаратуры, напісаных у XIX — пачатку XX стагоддзя. Маўляў, менавіта тады і ўтварылася аснова нашай літаратуры, філасофіі, развівалася публіцыстыка, а пісьменнікі ў сваіх работах заклалі падмурак для далейшага паспяховага развіцця нацыянальнай літаратурна-мастацкай творчасці.

## ТЭКСТЫ І ДЭШЫФРАТАР

І гэта сапраўды так. Ніхто не будзе спрачацца з тым, што Янка Купала і Якуб Колас былі прарокамі нацыянальнага адраджэння, што Максім Гарэцкі і Ядвігін Ш. сталі ля вытокаў псіхалагічнай прозы, а Вацлаў Ластоўскі па-майстэрску абыходзіўся з жанрам дэтэктыва і распрацоўваў тэму гістарычнага мінулага. Зрэшты, кожнага творцу, які актыўна пісаў у той час, можна назваць адкрывальнікам і наватарам, а з усёй яго творчасці — вылучыць некалькі найбольш значных, праграмных тэкстаў, што абумовілі далейшае развіццё беларускай літаратуры.

Але гэтыя словы — пусты гук для чытачоў, не знаёмых з беларускай гісторыяй і літаратурай. «Дзе доказы?» — запытаюцца. Дзе тэксты, прачытаўшы якія, можна сапраўды ўсё пабачыць і зразумець? Ды справа ў тым, што скіроўваць неафітаў беларушчыны да збораў твораў ці нават хрэстаматый няма сэнсу: ніхто не будзе прагортваць сотні, нават тысячы старонак у пошуках тэкстаў. Ім трэба ўсё, адразу, у адным месцы і пажадана… па-руску.

Думаецца, менавіта на такіх чытачоў арыентаваўся доктар філалагічных навук, прафесар Іван Саверчанка, калі пераклаў на рускую мову самыя значныя празаічныя і публіцыстычныя тэксты беларускіх пісьменнікаў XIX — пачатку XX ст. і ўклаў кнігу з сімвалічнай назвай «Ладдзя скарбаў». Менавіта для іх пісаў ён грунтоўную прадмову «Зварот да народныях вытокаў», якая, па сутнасці, выступае ключом, дэшыфратарам зместу зборніка, вызначае месца і ролю змешчаных у выданні тэкстаў, распавядае пра ўнёсак кожнага з аўтараў у развіццё беларускай літаратуры эпохі Раман-тызму і Новага часу. Адметна, што ў новае выданне ўвайшлі самыя вызначальныя тэксты беларускай літаратуры XIX — пачатку XX ст., так бы мовіць, квінтэсэнцыя думкі пісьменнікаў і філосафаў, якія сталі ля вытокаў беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці.

«У літаратурных колах XIX — пачатку XX стагоддзя дамінуючае месца належала эстэтычнай аксіёме, сутнасць якой складалася ў тым, што літаратура павінна служыць народу, быць неад'емнай часткай яго духоўнага жыцця, садзейнічаць маральнаму ўдасканаленню асобы і грамадства, умацоўваць нацыянальнае адзінства, фарміраваць агульную культуру нацыі. У сувязі з новай місіяй літаратуры і акрэсленымі прыярытэтамі выключнае значэнне для пісьменнікаў набыло імкненне пранікнуць у глыбіні народнай культуры, засвоіць і асэнсаваць шматвекавы духоўны і мастацкі вопыт нацыі», — піша Іван Саверчанка ў прадмове да зборніка «Ладдзя скарбаў». У гэтых словах даследчык акрэсліва агульную праграму развіцця літаратуры, якая ў творчасці пісьменнікаў, праламляючыся праз прызму рашэнняў у кожным дакладным выпадку, набывае новыя акцэнты, адценні, знаходзіць свежае практычнае выкананне. Укладальнік зборніка прапануе разгляд вытокаў і развіцця беларускай літаратуры з пункту гледжання мастацкіх стратэгій, што выкарыстоўваліся аўтарамі для дасягнення пастаўленай мэты.

## ВЫТОКІ І СТРАТЭГІІ

Тэрмін «мастацкая стратэгія» быў запазычаны даследчыкамі літаратуры з мастацтвазнаўства. Але разам з тым менавіта ён дазваляе спалучыць глабальную думку аўтара, яе выяўленне ў творы, а таксама падбор сродкаў для ўздзеяння на чытача. Калі карыстацца такім падыходам, то літаратурны твор бачыцца не сам па сабе, але знаходзіць сваё месца ва ўсёй творчасці пісьменніка, а таксама гарманічна «ўліваецца» ў канву агульнага развіцця літаратуры акрэсленага перыяду. Пры гэтым «стратэгічная матрыца» дапамагае лепш зразумець адметнасці літаратурнага працэсу пэўнага часу, яна складае, так бы мовіць, парадыгму развіцця прыгожага пісьменства.

Дык якія стратэгіі вылучае Іван Саверчанка ў творчасці беларускіх аўтараў канца XIX — пачатку XX ст.? Як яны працуюць на агульную мэту развіцця нацыянальнай літаратуры гэтага часу?

Так, даследчык адзначае, што беларускія майстры слова актыўна звярталіся да народных традыцый і фальклору, выказваючы павышаны інтарэс да міфаў і містычных з'яў. З аднаго боку, гэта яркая рыса рамантызму і неарамантызму ў літаратуры (а гэтыя плыні актыўна развіваліся ў XIX і XX ст. адпаведна), з іншага — такое рашэнне грунтуецца на тым, што менавіта фальклор, з яго песнямі, міфамі, казкамі і легендамі — адметная і непаўторная рыса кожнага народа, якая вылучае яго з шэрагу суседзяў. У гэты час творцы захапляюцца прыгажосцю роднай зямлі, малююць краявіды ў прыродаапісальнай лірыцы, ствараюць выдатныя пейзажы ў прозе. Гэта дазваляе і простым людзям па-іншаму зірнуць на родную зямлю, навучыцца бачыць яе маляўнічасць, а ў літаратурным працэсе — сведчыць пра засваенне нашымі творцамі асноўных прыёмаў сентыменталізму і імпрэсіянізму.

У беларускай эстэтычнай думцы XIX — пачатку XX ст. узмацняюцца *антропацэнтрычныя ідэі*, ядром якіх з'яўлялася ўяўленне пра асаблівае месца чалавека ў свеце і выключнай значнасці міжасабовых адносінаў. Такі падыход спрыяе развіццю інтымнай лірыкі і засяроджвае творцаў на апісанні пачуццяў і перажыванняў герояў, а значыць, спрыяе развіццю псіхалагізму. Разам з тым сілу набывае і адлюстраванне *бытавой жудасці*, неўладкаванасці жыцця сялян як стратэгічная праява рэалізму і нават натуралізму. Актыўна развіваюцца публіцыстыка, дзе разглядаюцца грамадска-палітычныя і сацыяльныя праблемы, драматургія. Пісьменнікі і філосафы разважаюць пра значнаць захавання роднай мовы і развіццё нацыянальнай самасвядомасці, асэнсаванне гістарычнага шляху нацыі, сцвярджаюць асаблівую ролю літаратуры і перыядычнага друку ва ўсіх гэтых працэсах.

Перад намі — не толькі тэарэтычныя вытрымкі з работ па гісторыі беларускай літаратуры, але і цэласны зборнік, укладзены з мэтай садзеяння таму, каб беларушчына прывабіла як мага больш шырокае кола чытачоў, нават рускамоўных. Важна, што многія тэксты з кнігі на рускую мову перакладзеныя ўпершыню: гэта перадусім публіцыстыка Кастуся Каліноўскага і Антона Луцкевіча, проза Вацлава Ластоўскага і Ядвігіна Ш.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Не абмініце*

# Пад гербам Радзівілаў




**Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» пачаў выдаваць уласны штогоднік *Acta Anniversaria*. Гэта зборнік дакументаў, матэрыялаў канферэнцый, гістарычных, мастацвазнаўчых і музеязнаўчых даследаванняў, звязаных з вывучэннем гісторыі роду Радзівілаў, а таксама расповедаў пра падзеі з жыцця музея. Першы том штогодніка не так даўно пабачыў свет у Нясвіжы ў адмысловай серыі *Studia Nesvisensia*.**

— Раней толькі два музеі краіны мелі ўласныя штогоднікі. Гэта Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік і Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь, — распавядае намеснік дырэктара Нясвіжскага музея па навуковай рабоце Зміцер Яцкевіч. — Таму для нас вялікі гонар і дасягненне далучыцца да ліку такіх устаноў, хоць музей у Нясвіжы яшчэ досыць малады і знаходзіцца ў невялікім горадку.

Матэрыялы, што ўвайшлі ў першы выпуск штогодніка Acta Anniversaria, аб'ядноўваюцца ў пяць раздзелаў. Частка «Артыкулы і даследаванні» знаёміць чытача з новымі адкрыццямі ў галіне вывучэння роду Радзівілаў і іх блізкіх сваякоў, маёнткаў, а таксама падзей, што адбываліся на радзівілаўскіх землях у мінулым. «Дакументальная спадчына» прадстаўляе ўнікальныя матэрыялы з Нацыянальнага гістарычнага архіва краіны і Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве. Раздзел «Музеязнаўства» аб'ядноўвае тэксты, прысвечаныя пытанням кансервацыі і атрыбуцыі важных музейных прадметаў, якія тычацца гісторыі роду Радзівілаў і захоўваюцца ў розных установах краіны. Асобны раздзел распавядае пра падзеі ў Нясвіжы і ваколіцах у гады Першай сусветнай вайны. Частка «Хроніка і інфармацыя» знаёміць чытача з галоўнымі падзеямі з жыцця Нясвіжскага музея, а таксама прадстаўляе новыя гістарычныя выданні, звязаныя з родам Радзівілаў.

— Мы ўжо вядзём працу па падрыхтоўцы наступнага штогодніка, — распавядае Зміцер Лявонцевіч, — таму запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх аўтараў, чые даследаванні нейкім чынам закранаюць мінуўшчыну Нясвіжа і ваколіц, гісторыю роду Радзівілаў. У рэдакцыйную калегію Acta Anniversaria ўваходзяць выдатныя гісторыкі, філолагі, мастацтвазнаўцы, музейшчыкі. Мы імкнёмся да таго, каб выданне мела высокі навуковы ўзровень.

У выдавецкіх планах Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж» — не толькі падрыхтоўка штогодніка. Цяпер тут працуюць над выданнем матэрыялаў па выніках Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 500-годдзю Мікалая Радзівіла Чорнага, што прайшла ў музеі напрыканцы мая. Магчыма, гэта будзе не проста зборнік дакладаў, але паўнавартасная калектыўная манаграфія, якая комплексна акрэсліць розныя аспекты жыцця і дзейнасці канцлера Вялікага Княства Літоўскага, а таксама распавядзе пра час, у які ён жыў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Адначаснікі*



**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Уладзімір

Ён тэлефануе мне даволі часта. І размовы нашы — пра Полацк. Толькі пра наш родны Полацк, быццам і падзей іншых няма. Уладзімір Іванавіч з групай гісторыкаў і мастакоў распрацаваў план рэгенерацыі гістарычнага цэнтра горада і настойліва прапагандуе яго ў Полацкім райвыканкаме, настойліва звяртаецца ў міністэрствы і ўстановы.

Ён гатовы даказваць кожнаму, якое месца ў нашай гісторыі і культуры мае Полацк і як трэба ставіцца да таго, каб горад займаў усё больш значнае месца ў жыцці краіны.

Цялежнікаў не гісторык, не пісьменнік, не журналіст. Ён інжынер, выкладчык эканомікі, кандыдат навук. Але ён — палачанін. А гэта гаворыць пра многае, бо, як казаў Рыгор Барадулін, «ёсць полацкі менталітэт».

З Уладзімірам Іванавічам я пазнаёміўся ў далёкія 1980-я гады, калі ён, малады інжынер Наваполацкага завода «Вымяральнік», узначаліў самае, бадай, слабае прадпрыемства Полацка — камбінат будаўнічых матэрыялаў, або, як яго называлі гараджане, — «Цагельню».

Новы дырэктар не хаваў сваіх амбіцый і гатовы быў выводзіць цагельню на сучасны тэхналагічны ўзровень, забяспечваць сацыяльныя патрэбы, меў шмат іншых планаў і задум. Забягаючы наперад, скажу, што многае ў яго атрымалася.

Але мяне тады прыемна здзівіла ўвага Цялежнікава да гісторыі, культуры. І тое, што гэта было для яго не проста забавай ці хобі, паказала далейшая работа на пасадзе дырэктара.

Праз некаторы час у горадзе з'явілася новая карцінная галерэя «Рыса», памяшканне выдзеліла прадпрыемства. Пры галерэі ўтварылася аб'яднанне мастакоў, якое ўзначаліў выпускнік Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута, будучы галоўны мастак горада, а затым і намеснік старшыні Саюза мастакоў краіны Сяргей Цімохаў. Выстаўкі, якія ладзілі «рысаўцы», прыцягнулі ў горад знаных аўтараў з Мінска, Віцебска, ды і самі заснавальнікі «Рысы» выраслі ў цікавых самабытных аўтараў, імёны якіх сёння добра вядомыя ў мастацкім свеце. Узяць хаця б Васіля Васільева, Алега Ладзісава, Аляксандра Канавалава…

Сам Цялежнікаў быў заўсёдным і актыўным наведвальнікам «Рысы», удзельнічаў у распрацоўцы многіх цікавых праектаў. Няўрымслівая энергія Цялежнікава вывела яго і на рэспубліканску арэну — ён стаў дэпутатам Вярхоўнага савета, займаў міністэрскую пасаду. Памятаю, як прыхільна сустрэў мой пераезд у Мінск, дапамагаў хутчэй адаптавацца ў сталіцы.

Але родны Полацк па-ранейшаму займае важкае месца ў яго жыцці. І сёння, калі пасля выхаду на пенсію Цялежнікаў прысвяціў сябе выкладчыцкай працы (а ён аўтар шматлікіх артыкулаў, кніг і дапаможнікаў), Полацк, бадай, галоўны клопат яго жыцця.

Я ведаю, што некаторых такая яго настойлівасць і актыўнасць нават раздражняе, ды і, шчыра кажучы, Уладзімір Іванавіч не з ціхіх і памяркоўных, але асабіста я глыбока паважаю гэтага чалавека за яго грамадзянскую пазіцыю і вернасць нашаму любаму гораду.

*Аблічча*

# Маладзечанскім гасцінцам



*Генадзь Каханоўскі ў Ракуцёўшчыне. Чэрвень 1987 г.*

*Фота Сяргея Панізніка*

Уся чароўная патаема купальскага свята 1977 года стаіць перад вачыма і сёння. Генадзь Каханоўскі запрасіў некалькі чалавек з Мінска наведаць яго сядзібу. І вось недалёка ад панадворка ўрачыста працягваем традыцыю продкаў. Падзею з высокай пашанотай змог падрыхтаваць толькі такі фалькларыст, краязнавец, як Генадзь Аляксандравіч.

Пад раніцу я папрасіў дазволу адлучыцца на сваім «жыгулёнку», каб агледзець-выслухаць прастору вакол Маладзечна. Зямля не спала. Блізкія і далёкія суседзі Каханоўскага пры вобліскаx вогнішчаў зачароўвалі не толькі сябе, а, здавалася, усю Айчыну, святаянскімі выгукамі.

Той Генадзеў падарунак цепліцца ў сэрцы. Дагадзіў ён мне, аўтару зборнічка «Кастры Купалля», наноў далучыўшы да асвечанай Памяці старажытнага народа.

А пазнаёмілі мяне з Генадзем Каханоўскім у Доме дружбы на вуліцы Захарава, дзе праходзіў пленум Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Трапіў я туды напрыканцы 1974 года па запрашэнні старшыні прэзідыума Арсена Ваніцкага. Сустрэўся з Рыгорам Шырмам, Леанідам Прокшам… Дзіўна, але з Домам дружбы па сённяшні дзень у мяне творчыя стасункі: спрыяю чым магу наладжванню культурных сувязей з Прагай, Рыгай…

Не затухае ўва мне прыязны позірк новага знаёмага Генадзя. Па бацьку я яго не называў, хаця і быў маладзейшым на шэсць гадоў. Сын Аляксандра не надзімаўся да напышлівасці, адказваў лагодай на лагоду, з якой я прытуляўся да асобы адметнай, настраёва цэласнай. Затоеная энергія яго вылівалася ў ахвярны ўчынак, у спагадлівае слова.

Крыху пазней я атрымаў ад Генадзя яго нядаўна выдадзеную кнігу «На запаветнай зямлі» з такім надпісам: «Глыбокапаважанаму Сяргею Панізніку з пажаданнем жыць не тужыць і больш пісаць і пісаць, каб мы ўсе багацейшымі сталі. Аўтар Г. Каханоўскі. 11 кастрычніка 1974 г.»

Я багацеў на шчырую ўвагу маладзечанца і ў наступныя гады.

У пісьме з завулка Палярнага, 1 Генадзь 17.07.1979 года пісаў: *«Шаноўны браце! На нашай маладзечанскай зямлі зараз узводзіцца мемарыяльны знак у памяць знакамітых людзей, хто прайшоў, ці праехаў, служыў, ці вучыўся, дружыў, ці ажаніўся на маёй Маладзечаншчыне. Сярод гэтых людзей ёсць і «твой» герой — Ян Судрабкалн. Мне Ермаловіч перадаў, што ты яму гаварыў аб гэтым латышскім паэце…» Я тады пачаў даследаваць матэрыялы пра латышска-беларускія літаратурныя сувязі. Згадваў і «рыжаніна» — перакладчыка Уладзіміра Пігулеўскага. Генадзь турбаваўся, каб гэтае імя ўключылі ў пісьменніцкі даведнік: «Таленавітымі людзьмі нельга раскідацца, хоць мы і не такія бедныя. Але сціпласць і ашчаднасць — толькі гонар нам».*

Генадзь падбадзёрыў мяне на далейшыя даследаванні, напісаўшы: «Памажы божа!» Апошнім жа радком пісьма сагрэў мой купальскі ўспамін: *«А каля нашага вогнішча і гэты год было цесна».*

У жніўні 1979 года адбылося ўрачыстае адкрыццё ля вёскі Мясата ўнікальнага помніка шаноўным падарожнікам па Віленскім шляху. Пра тую падзею ў артыкуле «Мінск, Маладзечна, Вільня…» Генадзь Каханоўскі згадваў так: *«Слова пра тых, чыё жыццё і творчасць судакраналіся з маладзечанскім краем, з нашым добрасардэчным беларускім народам, гаварылі М. Лужанін, І. Чыгрынаў, В. Рагойша, С. Яновіч і іншыя».* Пазней я дазнаўся, што на прыдарожным валуне былі выпісаны радкі Янкі Купалы, пазначаны імёны іншаземных творцаў. Мне, як гадаванцу Львова, захацелася прысвяціць верш Тарасу Шаўчэнку — 15-гадоваму казачку пана Энгельгарда, які, магчыма, па гэтай дарозе прабіраўся ў Вільню ў 1829 годзе. Доўга «даспяваў» на паперы верш «Віленскі тракт», пакуль я не асмеліўся паслаць яго наўрымслівааму заснавальніку фантастычнага Помніка Дарозе. І вось атрымліваю адказ: *«Дарагі Сяргей! Верш мне спадабаўся, але ён прысвечаны толькі аднаму чалавеку з тых, хто адзначаны на мемарыяльным «сямейным» помніку дзеячам літаратуры і мастацтва. Імёны там такія высечаны: С. Будны, М. Агінскі, Д. Давыдаў, М. Гогаль, Т. Шаўчэнка, В. Дунін-Марцінкевіч, У. Сыракомля, Ф. Багушэвіч, С. Манюшка, Цётка, Янка Купала, Якуб Колас, М. Багдановіч, Б. Тарашкевіч, М. Гарэцкі, В. Таўлай, П. Цвірка, К. Паўстоўскі, Ян Судрабкалн… Плануецца ўжо на новых камянях даць імёны Р. Шырмы, М. Лынькова, А. Куляшова, П. Броўкі, П. Глебкі, А. Твардоўскага…*

*Вось толькі «Віленскі т р а к т» не гучыць па-тутэйшаму. Нашы людзі здаўна называюць такую дарогу гасцінцам. Н. Гілевіч нават спрабаваў назваць — бальшак, што таксама зусім для нас нязвычна. Гасцінец — гасціннасць!*

*Зрэшты, бач колькі імён! Можа варта стварыць цэлы зборнік паэзіі «Дарога», ці «Гасцінец». Ужо шаўчэнкаўскі верш ёсць. Трэба прадоўжыць.*

*Калі не пакрыўдзішся, то я хацеў бы мець у сябе экзэмпляр твайго верша. Усё ж я маю непасрэднае дачыненне да стварэння гэтага помніка. Доўга выношваў ідэю, пакуль вылілася гэта ў рэальнасць. З пашанотай Генадзь Каханоўскі. 1.X.1983 г.»*

Я ўлічыў заўвагі Генадзя. У газеце «Літаратура і мастацтва» (23.3.1984 г.) гэты верш быў надрукаваны пад назвай «Віленскі гасцінец». Крыху пазней у Кіеве, Львове адзі за другім з'явіліся ажно тры пераклады гэтага твора на ўкраінскую мову.

У лістападзе 1984 года я атрымаў ад маладзечанскага аўтара важкія падарункі — кнігі «Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI —XIX стст.» і «Адчыніся, таямніца часу». Адзін з кранальных дарчых надпісаў быў такі: *«Дарагому сябру Сяргею Панізніку, з якім амаль агульна так шмат перажыта і перадумана».*

Толькі таямніцы часу і могуць распавесці пра тыя падзеі, калі ад службовых непрыемнасцей ратавалі нашага «пісара земскага» аўтарытэт і пасады Максіма Танка, Янкі Брыля… І Генадзь Каханоўскі зноў аказаўся на сваім пратаптаным шляху, спрычыніўся да заснавання, а фактычна да адраджэння Беларускага краязнаўчага таварыства, абараніў першую ў Беларусі доктарскую дысертацыю, прысвечаную крыніцазнаўству, матэрыяльнай і духоўнай культуры…

Акрамя названых кніг з аўтографамі, ёсць у сяброўскім куфры мноства фотаздымкаў. Вось кадр: у студзені 1982 года мы былі на свяце паэзіі і песні «Спадчына» ў Заслаўскім гісторыка-культурным запаведніку. Не без дапамогі Генадзя было падрыхтавана там народнае свята Каляды. Моладзь адзначала і 90-годдзе ад нараджэння М. Багдановіча. Здымак з датай 30 верасня 1982 года. Тады Каханоўскі, навуковы супрацоўнік Акадэміі навук, выконваў афіцыйную місію: на 90-годдзе Зоські Верас перадаў гаспадыні Лясной хаты пад Вільняй прывітальны адрас ад Саюза пісьменнікаў.

Здымкі з блізкага ад Маладзечна Багдановічаўскага прыстанку. Чэрвень 1987 года. Свята песні і паэзіі «Ракуцёўскае лета». У кадры — шчыры аднадумца М. Ермаловіча, Г. Каханоўскага Вячаслаў Антонавіч Ляшковіч з Маладзечанскага райкама. «Злоўлены» імгненні, калі Генадзь падпісвае кнігу ці не Лявону Луцкевічу з Вільні.

У Вільні мы былі 16 лістапада 1990 года на святкаванні 500-годдзя народзінаў Ф. Скарыны. Ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі асвяціў тады мемарыяльную дошку ў гонар Першадукара. У кадры сябры Генадзя — Міхась Ткачоў, Уладзімір Конан, Лявон Луцкевіч… А вось ён гутарыць з Маргарытай Пяровай, дальняй родзічкай Луцкевічаў.

У маі 1991 года Генадзь адправіў мне паштоўку і невялічкую цыдулку: *«Даруй, браце, што так позна. Перагрузкі: 5 гадзін дарогі на работу і з работы ўсё ж адбіваюцца на 55-гадовым чалавеку. Яшчэ ж і праца ў Менску і дома (нарыхтоўка паліва і г. д.). Некаторыя баяцца пенсіі, а я чакаю, як збавення ад перагрузак. Усё ж і тры перанесеныя аперацыі таксама што-небудзь ды значаць».*

А чаканае «збавенне» было трагічным. 10 студзеня 1994 года, набраўшы толькі 58 гадоў жыцця (нарадзіўся 8.1.1936 г.), Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі адышоў у Вечнасць.

Ці ўспамінаем мы гісторыка, археолага, фалькларыста, літаратуразнаўцу, краязнаўцу, музейніка? 12 студзеня 2006 года да 70-годдзя з дня нараджэння Г. Каханоўскага ў Літаратурным музеі Янкі Купалы прайшла вечарына «Адчыніся, таямніца часу». Сярод іншых мерапрыемстваў, якія помняцца, хачу нагадаць навукова-краязнаўчую канферэнцыю «Каханоўскі і яго час», якая прайшла 12 сакавіка 2009 года ў Маладзечанскай бібліятэцы імя М. Багдановіча. Сваю прамову там я назваў «На сцежцы да ісціны». Прачытаў і верш «Будзіцель з Дамашоў», дзе ёсць такія словы шкадавання: «Не стае нам Каханоўскага кахання, // ускалыхвання купальскага світання».

Але чаму б і не паверыць, што з'явіцца адноўлены помнік на Маладзечанскім (Віленскім) гасцінцы, дзе будзе ўсталяваны новы валун з прозвішчам радзімазнаўцы і зоркахода: «Генадзь Каханоўскі»? І ці не пастарацца нам яшчэ да 80-годдзя Генадзя Аляксандравіча падумаць аб выданні задуманага ім зборніка «Гасцінец» — у падзяку за душэўную гасціннасць маладзечанскага Летапісца?

**Сяргей ПАНІЗНІК**

# Навінкі кнігавыдання

### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Маршак, С. Я.** Сказка о глупом мышонке: сказки, [рассказы] и стихи: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / С. Маршак; рисунки М. Бондаренко, А. Чурсина. — Москва: АСТ, 2014. — 60 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-011597-6 (АСТ). — ISBN 978-985-16-9597-9 (Харвест) (в пер.).

**Маша и каша:** [русские народные скороговорки: для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2014. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0865-5.

**Медвежонок и ежонок:** [русские народные скороговорки: для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2014. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0866-2.

**Начинаем мы считать:** [русские народные считалочки: для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2014. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0861-7.



***Зорная Кася: казкі / [укладальнік Аксана Спрынчан]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 167 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-02-1548-2 (у пер.).***

*Чытаць аўтарскія казкі, што ўвайшлі ў кнігу «Зорная Кася», можна як на самоце, так і ў кампаніі сям'і ды сяброў. Героі твораў — вынаходлівыя, дапытлівыя, смелыя. Казкі распавядуць, як павучкі Зямлю абаранілі, як Данік у Радзівілаўскае метро трапіў і як Янка радню выззваляў. На старонках кнігі можна пазнаёміцца з уладальнікам казы, кавалём Коршам і прынцэсай са Снежнага горада, разам з героямі паўдзельнічаць у каралеўскім паляванні, пабачыць танец кветак, а назіраючы за зорнай Касяй, наведаць беларускі лес. Аўтары і выдаўцы абяцаюць: пасля прачытання казак з гэтага зборніка ў вас абавязкова застанецца апельсінавы настрой.*

**Новогодняя книга зимних сказок:** [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)]. — Москва: АСТ, 2014. — 186 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-086078-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3407-1 (Харвест) (в пер.).

**Перро, Ш.** Синяя Борода: [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста] / Шарль Перро; [иллюстрации: Дидковская Е. М.]. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2014. — 8 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-7101-04-7.

**Пушкін, А. С.** Казка пра залатога пеўніка: [для чытання дарослымі дзецям] / А. С. Пушкін; [пераклад з рускай мовы Алеся Якімовіча; ілюстрацыі: Максімовіч В. М.]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 15 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-02-1598-7.

**Разбегайся кто куда:** [русские народные считалочки: для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2014. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0862-4.

**Самые лучшие сказки:** [для дошкольного и младшего школьного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 319 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-3157-5 (в пер.).

**Сказки для детей:** [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста] / художник [и пересказ] Е. М. Дидковская. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2014. — 191 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-7056-70-5 (в пер.). — ISBN 978-985-7056-70-05 (ошибоч.).

**Сказки для малышей:** [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2014. — 70 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-7056-77-4 (в пер.).

**Сказки-мультфильмы:** [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)]. — Москва: АСТ, 2014. — 316 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-085750-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3493-4 (Харвест) (в пер.).

**Счет-перечет:** [русские народные считалочки: для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2014. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0863-1.

**Три поросенка:** [английская сказка: книжка-игрушка: для дошкольного возраста / художник, автор конструкции и пересказ Е. М. Дидковская]. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2014. — 12 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7056-69-9 (в пер.).

**Усачев, А. А.** Таблица умножения в стихах: [для младшего школьного возраста] / А. Усачев; художники: С. Бордюг и Н. Трепенок. — Москва: АСТ, 2014. — 57 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-027635-6 (АСТ). — ISBN 978-985-16-7351-9 (Харвест).

**Усачев, А. А.** Таблица умножения в стихах: [для младшего школьного возраста] / А. Усачев; художники: С. Бордюг и Н. Трепенок. — Москва: АСТ, 2014. — 57 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-048788-2 (АСТ). — ISBN 978-985-16-4631-5 (Харвест) (в пер.).

**Успенский, Э. Н.** Маленькие сказочные истории про дядю Федора, Шарика и Матроскина: [для дошкольного возраста] / Э. Успенский; [художники: А. Артюх, Е. Гальдяева, А. Шер]. — Москва: АСТ, 2014. — 30 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-086561-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3456-9 (Харвест) (в пер.).

**Чехов, А. П.** Дом с мезонином: рассказы / А. П. Чехов. — Минск: Мастацкая літаратура, 2014. — 403 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1624-3.

**Чудесные сказки для девочек:** [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)]. — Москва: АСТ, 2014. — 186 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-083434-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3355-5 (Харвест) (в пер.).

**Я иду искать:** [русские народные считалочки: для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2014. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0864-8.

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Абрамцева, Н. К.** Волшебное лекарство: [сказки: для младшего и среднего школьного возраста] / Наталья Абрамцева; [художник Сергей Волков]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2014. — 15 с. — Издано при участии редакции газеты «Воскресение» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-985-511-702-6.

**Афанасьева, З. А.** Для вас, ребятки, рисунки-загадки: [загадки в стихах и рисунках] / З. А. Афанасьева. — Гомель: Полеспечать, 2014. — 106 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7012-47-3.

**Дедушкины сказки:** [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2014. — 69 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-7056-75-0 (в пер.).

**Дубновицкий, С. М.** Дед Панас и пчелы: сборник сказок: [сказки в стихах] / Сергей Дубновицкий; [автор предисловия Надежда Парчук; художник Г. А. Жорж]. — Брест: Альтернатива, 2014. — 66 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-521-455-8.

**Дудюк, З. И.** В гостях у Деда Мороза: [для дошкольного и младшего школьного возраста / Дудюк Зинаида Иосифовна]. — Минск: Харвест, 2014. — 17 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-18-3531-3.

**Дудюк, З. И.** Долгожданная встреча: [для дошкольного и младшего школьного возраста / Дудюк Зинаида Иосифовна]. — Минск: Харвест, 2014. — 17 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-18-3577-1.

**Дудюк, З. И.** Новый год: [для дошкольного и младшего школьного возраста / Дудюк Зинаида Иосифовна]. — Минск: Харвест, 2014. — 17 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-18-3556-6.

**Жабко, Я. Г.** Волшебница природа: стихотворение: [для чтения взрослыми детям] / Янина Жабко; [художник Валентин Макаренко]. — Минск: Звязда, 2014. — 15 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-7083-78-7.

**Заслонова, И. К.** Почто рыбка не ловится?: (либо невод худ, либо нет ее тут): сказочная быль / Иза Заслонова; [художник Л. Гальперин]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 62 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7092-32-1 (в пер.).

**Зуборев, Л. И.** Сказки в стихах: [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста] / Леонид Зуборев; [художники: Наталья Иванчик и др.]. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2014. — 78 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7056-81-1 (в пер.).

**Карнаухова, Т. Г.** Киса: стихи для малышей: [для чтения взрослыми детям] / Тамара Карнаухова; [художник А. Ю. Кожановский]. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2014. — 31 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-7056-95-8 (в пер.).

**Квилория, В. Т.** В Тридевятом царстве: невероятные похождения Шурки и Лерки: история тринадцатая: [повесть: для среднего и старшего школьного возраста] / Валерий Квилория; [художник Т. Заяц]. — Минск: В. Т. Квилория, 2014–

Ч. 1. — 2014. — 143 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-7046-44-7.

**Клышевская, И. А.** Работящий Ослик: [сказки: для младшего и среднего школьного возраста] / Ирина Клышевская; [художник Светлана Котлярова]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2014. — 15 с. — Издано при участии редакции газеты «Воскресение» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-985-511-732-3.

**Краснова-Гусаченко, Т. И.** Эта книга детям обо всем на свете: стихи: [для младшего школьного возраста: для чтения взрослыми детям] / Тамара Краснова-Гусаченко; [художник Марыся Лось]. — Минск: Звязда, 2014. — 126 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7083-53-4 (в пер.).

**Лясковская, Н. В.** Сказка о варежках и бабушках: [сказки: для младшего и среднего школьного возраста] / Наталья Лясковская; [художник Ольга Крупенкова]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2014. — 15 с. — Издано при участии редакции газеты «Воскресение» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-985-511-733-0.

**Назидалочки:** сборник рассказов для детей / [составители: В. С. Немцев, В. А. Сахарук]. — Минск: Религиозная община евангельских христиан баптистов «Церковь Пробуждение»; Steinhagen: Samenkorn, 2013. — 160 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-6184-52-2 (Религиозная община евангельских христиан баптистов «Церковь Пробуждение»). — ISBN 978-3-86203-086-6 (Samenkorn) (в пер.).

**Сказки-безопаски:** [для дошкольного и младшего школьного возраста / главный редактор Е. А. Полещенкова; художник Ю. С. Кондратьева]. — Минск: Редакция газеты «Юный спасатель», 2014. — 18 с. — Часть текста на белорусском языке. — 1000 экз.

**Шилкина, Г. А.** Заячья наука: стихи: [для младшего школьного возраста] / Галина Шилкина; [художник Марыся Лось]. — Минск: Звязда, 2014. — 47 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-7083-72-5.

**Шипошина, Т. В.** Я благодарю: [стихи: для дошкольного и младшего школьного возраста] / Татьяна Шипошина; [художник Елена Шабад]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2014. — 16 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-511-706-4.

**Явич, Я. П.** Утена хочет знать: повесть-сказка: [для чтения взрослыми детям] / Яна Явич; [художник Татьяна Фисюк]. — Минск: Звязда, 2014. — 28 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-7083-79-4.

### Беларуская літаратура

**Арыстава, В. С.** Вывучаем лічбы праз вершы: з пропісамі і размалёўкамі: [для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту] / Вольга Арыстава. — Мінск: Арыстава Таццяна Валер'еўна, 2014. — 10 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-90337-2-8.

**Бядуля, З.** Шчасце не ў золаце: абразкі, мініяцюры, апавяданні, аповесць / Змітрок Бядуля. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 325 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1555-0 (у пер.).

**Вітушка, С.** Тэатр Сержука Вітушкі / [укладальнік Ларыса Сагановіч; рэдактар Зміцер Санько; ілюстрацыі Алег Аблажэй; фотаздымкі Юрась Сідун]. — Мінск: Тэхналогія, 2014. — 97 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-458-253-5 (у пер.).

**Жабко, Я. Г.** Загадкі казачнай хаткі: [для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту] / Яніна Жабко; [мастак Ала Пашкевіч]. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 22 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-11-0821-9.

**Жабко, Я. Г.** Прыгажосць бярозавага краю: зборнік твораў для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту / Яніна Жабко. — Мінск: Жасскон, 2014. — 119 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7009-89-3.

**Карлюкевіч, А.** Новыя прыгоды Шубуршуна: [казка: для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту] / Алесь Карлюкевіч; [мастак Марыя Каратаева]. — Мінск: Звязда, 2014. — 35 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-7059-59-1.

**Карлюкевич, А.** Путешествие Шубуршуна: сказка: [для младшего и среднего школьного возраста] / Алесь Карлюкевич; [перевод с белорусского Олега Ждана; художник Кирилл Задворный]. — Минск: Звязда, 2014. — 90 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-7083-81-7 (в пер.).

**Кузьмініч, І. Р.** Казачка пра гандляра Пятра, Казу і Каляды: [для чытання дарослымі дзецям] / Ігар Кузьмініч; [ілюстрацыі Алесі Галоты]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 14 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-02-1620-5.

**Лучынка:** для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту / [укладальнікі: Зося Кустава, Валянціна Салаўёва; мастак Мая Пракаповіч]. — Мінск: Мастацкая літаратура: Беларуская асацыяцыя «Конкурс», 2014. — 171 с. — 18300 экз. — ISBN 978-985-02-1610-6 (Мастацкая літаратура). — ISBN 978-985-557-071-5 (Беларуская асацыяцыя «Конкурс») (у пер.).

**Пшонік, Г. Б.** Чарадзейны калейдаскоп: казкі: [для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту] / Галіна Пшонік; [мастак Святлана Рыжыкава]. — Мінск: Звязда, 2014. — 101 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-7059-36-2 (у пер.).

### Тэорыя літаратуры. Вывучэнне літаратуры

**Воропаева, В. С.** Литературное чтение: 3–4-е классы: путешествие в мир сказки: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / В. С. Воропаева, Т. С. Куцанова; Национальный институт образования. — 5-е изд. — Минск: Аверсэв, 2015. — 270 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-1407-0.



***Шырко, В. А. Дзед Манюкін і ўнукі: казкі: [для сярэдняга школьнага ўзросту] / Васіль Шырко; [мастак Ганна Рамаhоўская]. — Мінск: Звязда, 2014. — 197 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-7083-47-3 (у пер.).***

*І ў рэчаснасці здараюцца такія гісторыі, калі складана разабрацца, дзе заканчваецца рэальнасць і пачынаецца выдумка. Што ж казаць пра казкі! Таму герой Васіля Шырко Дзед Манюкін надзвычай смела абыходзіцца з фактамі, распавядаючы пра падзеі ўласнага жыцця. Ён то змагаецца з нячысцікамі, то надзвычай шчаслівa ловіць рыбу, то хітра ратуецца ад мядзведзя ды ваўкоў і нават лётае на далёкую планету Прывідус. А навошта задумвацца, ці сапраўды тое было? Гісторыі ж цікавыя і вясёлыя!*

**Кабржыцкая, Т. В.** Гісторыя ўкраінскай літаратуры: украінска-беларуска-польскія літаратурныя дыялогі: вучэбны дапаможнік для студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі па філалагічных спецыяльнасцях: у 2 ч. / Т. В. Кабржыцкая, М. М. Хмяльніцкі, Э. Ю. Дзюкава. — Мінск: БДУ, 2012–2014. — 20 см. — ISBN 978-985-518-708-1.

Ч. 26 Міжкультурныя камунікацыі XX–XXI стст. / [пад рэдакцыяй М. М. Хмяльніцкага]. — 2014. — 270 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-566-032-4.

**Русская и белорусская литературы на рубеже XX–XXI веков:** сборник научных статей / Белорусский государственный университет; под редакцией С. Я. Гончаровой-Грабовской. — Минск: РИВШ, 2014. — 385 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-500-761-7.

### Беларуская літаратура

**Бобла, І. М.** Літаратурнае чытанне: вучэбны дапаможнік для 8-га класа першага аддзялення дапаможнай школы з беларускай мовай навучання / І. М. Бобла, Л. І. Данільчанка, Ф. І. Шаласава. — Мінск: Народная асвета, 2014. — 246 с. — 799 экз. — ISBN 978-985-03-2323-1 (у пер.).

**Варабей, М. І.** Карткі-памяткі: літаратурнае чытанне / М. І. Варабей, М. У. Сяргеева; пад рэдакцыяй А. М. Карчагінай. — Мазыр: Образовательная компания «Содействие», 2014. — 110 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-520-986-8.

**Гарадніцкі, Я. А.** Літаратура як мастацтва: камунікатыўнасць, інтэрмедыяльнасць, наратыўнасць / Я. А. Гарадніцкі; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, Філіял «Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы». — Мінск: Беларуская навука, 2014. — 400 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-08-1760-0 (у пер.).

**Дамасевіч, А. У.** Мая чытанка / А. Ул. Дамасевіч. — Мазыр: Образовательная компания «Содействие», 2014. — 84 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-520-989-9.

**Тэксты:** літаратурна-мастацкі праект / галоўны рэдактар: Зміцер Вішнёў. — Мінск, 2004 — Заснаваны ў 2004 г. — ISSN 2306-6396.

№ 5: альманах. — Галіяфы, 2014. — 333 с. — 200 экз.

## ГЕАГРАФІЯ. БІЯГРАФІІ. ГІСТОРЫЯ

### Археалогія. Перадгісторыя

**Курганныя могільнікі захаду Браслаўскага Паазер'я (матэрыялы раскопак 1978–2010 гадоў)** / Мікалай Плавінскі [і інш.]. — Мінск: Галіяфы, 2014. — 218 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах. — Частка тэксту на англійскай мове. — Бібліяграфія: с. 205–218. — 300 экз. — ISBN 978-985-7021-60-4.

### Краязнаўства

**Буткевіч, В. В.** Факультативные занятия «Мое Отечество». Мы — граждане Республики Беларусь: 4-й класс: рабочая тетрадь: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / В. В. Буткевич, Н. Г. Ванина, О. В. Толкачева. — Минск: Пачатковая школа, 2014. — 70 с. — Часть текста на белорусском языке. — 3000 экз. — ISBN 978-985-565-087-5.

**Гродненский край приглашает гостей:** (к 70-летию Гродненской области) / [составители: М. А. Загидулина и др.; редколлегия: С. В. Донских, С. А. Пивоварчик, Т. А. Пивоварчик; фото: А. И. Лосминский, Я. В. Ванюкевич, С. П. Морозов]. — Гродно: Гродненская типография, 2014. — 191 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7037-15-5 (в пер.).

**Гродненщина:** годы свершений: (к 70-летию Гродненской области) / [редколлегия: П. К. Скробко и др.; составители: Ли Чон Ку и др.; фото: А. И. Лосминский, Я. В. Ванюкевич, С. П. Морозов]. — Гродно: Гродненская типография, 2014. — 143 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7037-53-7 (в пер.).

**Исторический календарь мини-проекта «Падбярэзскі куфар»:** научные сообщения итогового «круглого стола» и научных чтений на празднике деревни Подберезье, 30–31 мая 2014 г. / [составители: В. М. Кириллова, В. А. Шишанов]. — Витебск: ВГУ, 2014. — 83 с. — Часть текста на белорусском языке. — 80 экз. — ISBN 978-985-517-451-7 (ошибоч.).

**Каляндар знамянальных і памятных дат па Магілёўскай вобласці на 2015 год** / Установа культуры «Магілёўская абласная бібліятэка ім. У. І. Леніна», Аддзел беларускай і краязнаўчай літаратуры; [складальнікі: Калініна Тамара Міхайлаўна, Бязмен Вольга Мікалаеўна]. — Магілёў, 2014. — 139 с. — 4 экз.

**Лидский район** = Lida region / [Лидский районный исполнительный комитет]. — Лида, 2014. — 56 с. — Параллельно на русском и английском языках. — 1000 экз.

**Малая родина — большое будущее. Чечерск** / [автор текста, составитель: Е. Л. Епишева; редколлегия: В. Г. Дорошевич и др.; фото: О. В. Белоусов, А. А. Герасименко, Ю. В. Ермоленко]. — Гомель: Редакция газеты «Гомельская праўда», 2014. — 143 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6435-29-7 (в пер.).

### Агульная геаграфія

**Современные проблемы ландшафтоведения и геоэкологии:** материалы V Международной научной конференции (к 80-летию географического факультета и кафедры географической экологии Белорусского государственного университета), 14–17 октября 2014 г., Минск / [редколлегия: А. Н. Витченко (науч. ред.) и др.]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2014. — 232 с. — Часть текста на английском языке. — 130 экз. — ISBN 978-985-553-216-4.

**Тимошкова, А. Д.** Физическая география материков: морфоструктура и морфоскульптура: методические рекомендации: [для студентов] / А. Д. Тимошкова; Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный университет им. П. М. Машерова, Кафедра географии. — Витебск: ВГУ, 2014. — 40 с. — 60 экз.

### Гісторыя

**Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (Мінск). Гістарычны факультэт.** Працы гістарычнага факультэта БДУ: навуковы зборнік / [рэдкалегія: У. К. Коршук (адк. рэд.) і інш.]. — Мінск: БДУ, 2006 — ISSN 1995-5669.

Вып. 9. — 2014. — 254 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах. — Частка тэксту на рускай мове. — Бібліяграфія ў канцы навуковых прац. — 100 экз.

### Гістарычная навука. Гістарыяграфія

**Учреждение «Зональный государственный архив в г. Молодечно»:** путеводитель: 1919–1941, 1944–2007 / Департамент по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь; [составители: М. П. Кириленко, Н. В. Колтакова, Д. А. Жаденов]. — Молодечно, 2014. — 339 с. — 150 экз. — В переплете.

### Гісторыя Сярэдніх вякоў, новага і найноўшага часу

**Исследования по истории Восточной Европы** = Studia historica Europae orientalis: научный сборник / Государственное учреждение образования «Республиканский институт высшей школы», Кафедра историко-культурного наследия Беларуси. — Минск, 2008. — 20 см. — Основан в 2008 г. — ISSN 2079-1488.

Вып. 6 / [редколлегия: А. В. Мартынюк (отв. редактор) и др.]. — РИВШ, 2014. — 313 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз.

### Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым

**Маннергейм, К. Г.** Воспоминания / Карл Густав Маннергейм; [перевод с английского: Ю. В. Лобода, В. В. Лобода]. — 2-е изд. — Минск: Попурри, 2014. — 511 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-15-2443-9 (в пер.).

### Гісторыя Беларусі

**Апіок, Т. У.** Гісторыя Беларусі ў кантэксце еўрапейскай цывілізацыі: вучэбна-метадычныя матэрыялы і рэкамендацыі да семінарскіх заняткаў для студэнтаў 1-га курса факультэта замежных моў / Т. У. Апіок; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. А. А. Куляшова. — Магілёў: МгДУ, 2014. — 33 с. — 62 экз.

**Астапенка, А.** Мікола Ермаловіч: той, хто вярнуў нам гісторыю / Анатоль Астапенка. — Мінск: Харвест, 2014. — 63 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3550-4.

**Бондаренко, В. В.** Полководцы и военачальники Первой мировой войны – уроженцы Беларуси / Вячеслав Бондаренко; [художник В. П. Калинин]. — Минск: Звязда, 2014. — 119 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7083-88-6 (в пер.).

**Гістарычна-археалагічны зборнік** / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі. — Мінск, 1993 — Заснаваны ў 1927 г. — ISSN 1728-0532.

Вып. 29 / [рэдкалегія: А. А. Каваленя (галоўны рэдактар) і інш.]. — Беларуская навука, 2014. — 343 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах. — Частка тэксту на рускай і ўкраінскай мовах. — 150 экз. — ISBN 978-985-08-1771-6.

**Гістарычныя шляхі, узаемадзеянне і ўзаемаўплывы беларускага народа і суседзяў:** зборнік навуковых артыкулаў / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Францыска Скарыны; [рэдкалегія: Р. Р. Лазько (галоўны рэдактар) і інш.]. — Гомель: ГДУ, 2014. — 178 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах. — Частка тэксту на рускай і ўкраінскай мовах. — 35 экз. — ISBN 978-985-439-912-6.

**Деды:** дайджест публикаций о белорусской истории / [составитель и редактор Тарас Анатолий Ефимович]. — Минск, 2009 — Основан в 2009 г. — ISSN 2075-5376.

Вып. 14. — Харвест, 2014. — 318 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3555-9 (в пер.).

**Ермоленко, В. А.** 400 имен: жизнеописания видных деятелей истории и культуры Гродненщины (с древнейших времен до начала XX века) / В. А. Ермоленко, В. Н. Черепица. — Гродно: Гродненская типография, 2014. — 463 с., XVI с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7037-54-4 (в пер.).

**Задания вступительных испытаний в Лицей БГУ по истории Беларуси и всемирной истории 2011–2013 гг.** / [Д. А. Дрожжа и др.]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2014. — 99 с. — Часть текста на белорусском языке. — 150 экз. — ISBN 978-985-553-213-3.

**Кез, И. В.** Сквозь годы и грозы XX века / Игорь Кез, Валерий Мороз. — Брест: Альтернатива, 2014. — 383 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-521-445-9 (в пер.).

**Ковалева, Л. А.** Деятельность БНР на международных конференциях: методические рекомендации: [для студентов] / Л. А. Ковалева; Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова. — Могилев: МгГУ, 2014. — 15 с. — 30 экз.

**Концентрационный лагерь «Озаричи»:** живые свидетельства Беларуси / Республиканское общественное объединение бывших узников фашизма концлагеря «Озаричи», Минский международный образовательный центр им. Йоханнеса Рау, Дортмундский международный образовательный центр, Историческая мастерская ММОЦ им. Йоханнеса Рау; [составители: А. П. Шкуран и др.; редакционный совет: В. Ф. Балакирев и др.]. — Минск: Галіяфы, 2014. — 323 с. — Часть текста на белорусском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-7021-33-8.

**Ненадавец, А.** Тэадор Нарбут: зачараваны старажытнай Літвой / Алесь Ненадавец. — Мінск: Харвест, 2014. — 63 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3553-5.

**Посвящается потомкам:** по страницам районной газеты «Край смалявіцкі» / ГУ «Редакция газеты «Край смалявіцкі» и Программа радиовещания «Смалявічы». — 2010–

Кн. 2 / [составитель Э. И. Потапчик]. — Борисов: Борисовская типография, 2014. — 94 с. — Часть текста на белорусском языке. — 250 экз. — В переплете. — ISBN 978-985-90291-3-4 (ошибоч.).

**Саяпин, В. Ю.** Гродненские памятники и скульптуры / Виктор Саяпин. — Гродно: ЮрСаПринт, 2014. — 105 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-99335-4-7.

**Саяпин, В. Ю.** Забытые фабрики и заводы Гродно / Виктор Саяпин. — Гродно: ЮрСаПринт, 2014. — 117 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-99335-3-0.

**Стагановіч, А. Л.** Успаміны пасла / Аляксандр Стагановіч; [прадмова А. В. Пашкевіча; каментарыі А. В. Пашкевіча, А. Э. Гардзіенкі; навукова-выдавецкая рада: Аляксей Каўка і інш.]. — 2-е выд. — Мінск: Лімарыус, 2014. — 268 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6968-40-5 (у пер.).



***Тычына, М. А. Філасофія літаратуры: беларускі варыянт / М. А. Тычына; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, Філіял «Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы». — Мінск: Беларуская навука, 2014. — 322 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-08-1758-7 (у пер.).***

*У сучасным літаратуразнаўстве існуюць дзясяткі манаграфій з назвай «Тэорыя літаратуры», таму ўзнікае пэўны разнабой у праблематыцы, якой у кожным канкрэтным выпадку прысвечана навуковая праца. Новая манаграфія доктара філалагічных навук Міхася Тычыны арыентавана на вывучэнне праблем «філасофіі літаратуры» як метафарычнага сіноніма паняцця тэорыі — літаратуры. У цэнтры ўвагі дадзенай працы менавіта філасофскі змест праблем літаратурнай тэорыі, тут разглядаюцца класічныя і актуальныя праблемы сучаснай тэорыі літаратуры ў дыялогу еўрапейскіх культур: літаратурныя веды; мова мастацкай літаратуры; літаратурныя роды, віды, жанры і стылі; літаратуразнаўчыя напрамкі, плыні, школы; мадэлі «філасофіі літаратуры».*

Пад вокладкай

# …ізноў на вайне

**Заўсёды радуюць мяне асабістыя сустрэчы з Георгіем Тамашэвічам. Люблю яго вершы. Асабліва запалі ў сэрца «Сімвалы Берасцейскай зямлі» і «Прапаў без весткі...» з паэтычнага зборніка «Новы дзень». Яны пра наш край, пра старэйшага брата паэта, чырвонаармейца, які загінуў на Вісле ў канцы Вялікай Айчыннай вайны. І вось выйшла новая кніжачка аўтара з сімвалічнай назвай «Шлях».**




Адкрываюць яе «Некалькі слоў пра сябе» і прадмова «Лінія лёсу», у якіх аўтар і паэтка Любоў Красеўская прыводзяць звесткі пра жыццёвы шлях Георгія Сцяпанавіча. Нарадзіўся ён у жніўні 1939 года. «Трэці, чацвёрты, пяты і шосты жыццёвы мой жнівень былі ў палоне Вялікай Айчыннай вайны... Нялёгкі, трывожны і трагічны той час. І гэта застаецца на ўсё жыццё», — піша аўтар. Скончыў Калінінградскае медыцынскае вучылішча, служыў у Савецкай Арміі. Затым — факультэт журналістыкі Кіеўскага ўніверсітэта. Рэдактарскую працу ў Баранавічах (правёў тут аж сямнаццаць гадоў!) давялося змяніць у пачатку 1990-х на дзяржаўную службу ў сродках масавай інфармацыі ў Брэсце і жыць клопатамі газет, радыё, тэлебачання, выдавецкай справы... Сёння Георгій Тамашэвіч — старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз журналістаў».

Вершы выбудоўваюцца ў лінію лёсу са сваімі кропкамі адліку, узаемаадносінамі з людзьмі і цэлым светам. У іх кранальна гучаць тэмы Радзімы і патрыятызму, кахання і сяброўства, дабрыні і справядлівасці. Вось радкі з «Успаміну»: *«Памяць дзяцінства ізноў на вайне / Доўжыцца сціплым радком, / Боль пахаронкі дагэтуль ва мне / З Віслы пажоўклым лістком».*

**Аляксандр ЮДЗІЦКІ**

# Лірыка міру

**«Помнім герояў сваіх» — ужо чацвёрты калектыўны зборнік вершаў сяброў літаб'яднання «Натхненне». Ён пабачыў свет сёлета ў сталічным выдавецтве «Белпрынт». Кіруе творчай суполкай паэтэса, член СПБ Лёля Багдановіч. У кнігу ўвайшлі вершы на беларускай і рускай мовах, прысвечаныя Вялікай Перамозе, а таксама яе героям — тым, хто змагаўся за мір на зямлі.**




Зборнік склалі творы трыццаці паэтаў Міншчыны — членаў не толькі літаб'яднання «Натхненне», але і Беларускага літаратурнага саюза «Полоцкая ветвь», народнага клуба кампазітараў і паэтаў Мінскай вобласці «Жывіца». У ліку суаўтараў — Лёля Багдановіч, Алена Дзегцярова, Людміла Малчанская, Генрыета Сяргеенкава… Тэмы вайны, Перамогі, міру, кахання кожны аўтар інтэрпрэтуе па-свойму. Вось, да прыкладу, радкі верша Л. Багдановіч «Шчыры дзякуй»:

*Ніколі не забудзе той былога,*
*Хто зведаў кошт жыцця і цішыні.*

Ці верш-заклік «Жыві, Перамога!» Алены Дзегцяровай:

*Святкуй, Беларусь!*
*Партызанка-дзяўчына,*
*Ідзі на спатканне ў квецень садоў,*
*Хвалюй прыгажосцю,*
*святая Айчына,*
*І памятай тых,*
*хто з вайны не прыйшоў.*

Да жывых сведак вызвалення Беларусі — ветэранаў Вялікай Айчыннай — звяртаецца Л. Малчанская:

*Ветераны —*
*земли маяки,*
*Миротворческий свет ваш*
*нетленен.*
*Вы — исток той вселенской реки,*
*Что несёт Жизни дар поколеньям.*

Паэтычнае прысвячэнне «Салдатам саракавых» напісала і Генрыета Сяргеенкава — аўтар прадмовы да кнігі:

*Спасибо вам за тихий час заката,*
*За звонкий смех счастливой детворы,*
*Спасибо вам, спасибо вам, ребята,*
*Солдаты трудной, огненной поры.*

Зборнік «Помнім герояў сваіх» — лірычная старонка айчыннай літаратуры пра подзвіг беларускага народа на шляху да Вялікай Перамогі. Сэнс назвы напоўніцу раскрывае заключная страфа верша Валянціны Анкудзінавай «Айчына мая»:

*І наша ўдзячнасць не мае мяжы,*
*Мы помнім герояў сваіх.*
*О лёс! Стаць дастойнымі дапамажы*
*Бацькоў гераічных тваіх.*

**Яна ЯВІЧ**

Стасункі

# Мовы не забываць

**Падчас чарговага прыезду ў Беларусь пісьменніца Іна Саніна распавяла карэспандэнту «ЛіМа» пра творчае жыццё выхадцаў з былога Савецкага Саюза.**

— Я скончыла вясковую сямігодку на малой радзіме — у пасёлку Высокае на Віцебшчыне… Калі надараецца магчымасць, праглядаю беларускія газеты, каб мову не забываць. А яшчэ ў маёй хатняй бібліятэцы ёсць творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі…

**— Ці ёсць у Лос-Анджэлесе, дзе вы жывяце, цікавы вам клуб аматараў літаратуры?**

— Так. Гэта Рускі літаратурны клуб, які наведваюць прадстаўнікі сярэдняга і старэйшага пакаленняў. Што да маладых людзей, то вечарамі зацікаўленыя прыходзяць у адмысловую «літаратурную кавярню», каб абмеркаваць любімыя творы ці кніжныя навінкі.

**— Як праходзяць сустрэчы ў межах клуба?**

— Кожны раз грамадская арганізацыя Russian Social Community на дзве гадзіны бясплатна прадастаўляе нам аўдыторыю. Кіруе клубам паэтэса Бэці Гастомельская — таксама эмігрантка, з Кіева. Адметна, што сярод сяброў клуба ёсць і празаікі, і эсэісты, і дзіцячыя пісьменнікі. Чытаем услых і абмяркоўваем свае творы, спрачаемся… Ладзім і так званыя «вечары аднаго аўтара», калі *Russian Social Community*, таксама бясплатна, прадастаўляе чалавеку залу для выступлення. На вечарыны можна запрашаць і музыкантаў. Праводзім фэст «Весенние голоса», калі на сцэне выступаюць усе ці амаль усе члены клуба — звычайна 25 — 30 творцаў. Пішуць яны пра каханне, знакавыя жыццёвыя падзеі, вандроўкі…



Акрамя таго, кожную восень у Заходнім Галівудзе, дзе канцэнтруецца рускамоўнае насельніцтва Лос-Анджэлеса, праходзіць кніжны кірмаш, у межах якога цягам аднаго дня сваю прадукцыю прадстаўляюць амерыканскія кніжныя выдавецтвы. На гэтае свята кнігі можа прыйсці кожны ахвочы.

**— У штаце Каліфорнія выпускаецца рускамоўнае перыядычнае выданне «Международный альманах поэзии»…**

— Цяпер рыхтуецца ўжо дваццаць другі выпуск альманаха, які выходзіць з друку раз на год — традыцыйна ўвосень. Яго першым галоўным рэдактарам быў доктар медыцынскіх навук, паэт, выхадзец з Санкт-Пецярбурга Ілья Фрыдліб, які жыў у г. Сан-Хасэ. Спачатку гэта быў лакальны часопіс, які выдаваўся і распаўсюджваўся толькі ў Каліфорніі, а цяпер — альманах, вядомы ва ўсім свеце. Сёння яго ўзначальвае паэтэса Ліна Самінская, якая, дарэчы, таксама прыехала ў ЗША з Санкт-Пецярбурга.

**— Пра што пішаце цяпер?**

— Працую над дакументальнымі апавесцямі пра эміграцыю, пра вайну, а таксама над вершамі. Пішу толькі па-руску. Мае новыя зборнікі паэзіі — «Кветкі і церніі» ды «Вячэрнія маналогі» — выйшлі ў адным з амерыканскіх прыватных выдавецтваў.

**Яна ЯВІЧ**

З пошты «ЛіМа»

# Сведка распавядае

**Пабачыла свет кніга Фёдара Касцюковіча «Сіла слабых». Аўтар — ветэран Вялікай Айчыннай вайны, чалавек неардынарнага лёсу. Яго жыццёвы шлях разнастайны і пакручасты, а рашэнні, што ён прымаў у важныя моманты, прымушаюць чытача здзіўляцца і захапляцца.**




Спачатку можа падацца, што кніга — проста апавяданні сведкі пра вайну і пасляваеннае жыццё. Таму, на ўсялякі выпадак, пачала з твора «Неправдоподобно казальны Малышкін», які быў заяўлены аўтарам як «сур'ёзная камедыя». І літаральна з першых старонак твор захапіў: хацелася чытаць далей! Апісанні ў аповедзе — псіхалагічныя перажыванні герояў, прырода, наваколле — надзвычай дакладныя і падаюцца аўтарам вельмі маляўніча: нібыта глядзіш мастацкі фільм. І гэта невыпадкова, бо аўтар і пісаў свае творы для кінематографа.

Чытач кнігі «Сіла слабых» быццам становіцца ўдзельнікам падзей. Хіба можа быць па-іншаму, калі ўсё напісана чалавекам, які перажыў гады ліхалецця і сам ужо частка гісторыі? У творах Фёдара Касцюковіча закранаюцца розныя тэмы: сям'я і каханне, подзвіг і здрада, прырода і чалавечыя адносіны. Думаецца, кніга будзе цікавая шырокаму колу чытачоў, але асабліва карысная яна стане для моладзі. Упэўненая, кожны чалавек, разгарнуўшы выданне «Сіла слабых», не будзе расчараваным.

**Надзея КЛІМЯНОК,**
**намеснік дырэктара САШ № 60 г. Мінска**

# Танцаваць як Дрэчын

**У «Вялікай энцыклапедыі Вялікага тэатра» між заснавальнікаў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета згадваецца імя аднаго з найбуйнейшых майстроў харэаграфічнага мастацтва Беларусі Сямёна Дрэчына.**



Балетмайстар Канстанцін Алексютовіч — ураджэнец Пухаўшчыны, выпускнік Пецярбургскай тэатральнай вучэльні — звярнуў увагу на С. Дрэчына, калі юнак наведваў адзіны на той час танцавальны гурток у мінскім Палацы піянераў. У 1930 г. Сямён трапіў у склад першага набору Беларускай студыі оперы і балета. Ён быў адным з самых адораных навучэнцаў — у студыі рыхтаваліся ўласныя тэатральныя пастаноўкі, і плённая праца калектыву сталася перадумовай адкрыцця тэатра оперы і балета.

Першы спектакль, які ўбачылі гледачы ў адчыненым будынку тэатра, — балет Міхаіла Крошнэра «Салавей» (1939), створаны па матывах аднайменнай аповесці З. Бядулі. У пастаноўцы шмат фальклорнай музыкі і харэаграфіі, музычны вобраз народнага свету паказаны на аснове беларускіх танцаў і песень. Сямён Дрэчын выконваў у спектаклі галоўную ролю і быў суаўтарам пастаноўшчыка — Аляксея Ермалаева, аднаго з самых бліскучых танцораў балета Вялікага тэатра СССР.

Першы нацыянальны беларускі балет з поспехам прадстаўлены ў межах Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве (5 — 14 чэрвеня 1940 г.), і 21 чэрвеня — 75 гадоў таму — тэатр атрымаў найменне «Вялікі».

У ваенныя гады Сямён Дрэчын — саліст Вялікага тэатра СССР. У 1945 г. атрымаў званне заслужанага артыста Беларусі. Другім адметным вобразам С. Дрэчына стала вядучая партыя ў балеце Васілія Залатарова «Князь-возера» (1949), заснаваным на старажытных палескіх легендах. Тут упершыню ў практыцы беларускага балетнага тэатра зроблена спроба стварыць масавы, з нацыянальнай афарбоўкай, танец на пуантах. Паводле тэатральнага крытыка Юліі Чурко, для С. Дрэчына «былі ўласцівыя пошукі псіхалагічнай дакладнасці, выдатнае адчуванне стылю, тэхнічнае майстэрства і адухоўленасць выканання». Між іншых роляў артыста — Зігфрыд («Лебядзінае возера» П. Чайкоўскага), Базыль («Дон Кіхот» Л. Мінкуса), Гірэй («Бахчысарайскі фантан» Б. Астаф'ева).

У 1950 — 1959 Сямён Дрэчын не толькі саліст балета, але і балетмейстар Вялікага тэатра, дзе ставіць балеты «Эсмеральда» на музыку Ц. Пуні, «Карсар» А. Адана ды інш. «С. Дрэчын у якасці балетмайстра умеў так бліскуча паказваць танцы і партыі, што часам думалася: было б лепш, каб ён рабіў гэта крыху горш, — згадваў заслужаны артыст БССР Яўген Глінскіх. — Прынамсі, калі я паглядзеў, як ён дэманструе створаныя фрагменты да балета «Лаўрэнсія», я адмовіўся танцаваць у ім галоўную ролю, бо разважыў, што выканаць яе як Дрэчын не магу, а горш альбо інакш не хачу. У яго была такая яркая індывідуальнасць, якой можна было толькі зайздросціць. І гэта прыносіла калегам адчувальную карысць. Калі мне давялося пасля яго танцаваць у «Дон Кіхоце», я рэпеціраваў іспанскія танцы нават уночы».

У Вялікім тэатры С. Дрэчын працаваў да 1959 года. Потым супрацоўнічаў як балетмайстар з рознымі тэатральнымі калектывамі Беларусі і замежных краін — ставіў спектаклі ў Башкірскім, Малдаўскім, Саратаўскім, Львоўскім тэатрах оперы і балета. Між пастановак, значных для самога балетмайстра, — гераічная паэма-сюіта «Брэсцкая крэпасць» на музыку Д. Шастаковіча, балет «Сабор Парыжскай багамаці» Ц. Пуні, «Спартак» А. Хачатурана.

Жанравая палітра творчасці Сямёна Дрэчына вельмі шырокая, ён з натхненнем браўся за розныя праекты. У студзені гэтага года Сямёну Уладзіміравічу споўнілася б сто гадоў.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Побач з легендай

Аднаўлены балет, старанна адрэстаўраваная харэаграфія — беларускі глядач мае шчаслівую магчымасць бачыць спектакль такім, якім ён быў больш як сто гадоў таму: легендарныя пастаноўкі расійскіх балетмайстраў Міхаіла Фокіна, Марыуса Петыпа вяртаюцца ў тэатры. А вось праекты Сямёна Дрэчына, легендарнага айчыннага танцоўшчыка, рэжысёра, балетмайстра, пакуль не. Між тым семдзесят гадоў таму танцам Сямёна Дрэчына апладзіравала ўся тэатральная Масква, досвед перайняла велізарная шматнацыянальная краіна, а яго бачанне балетнага спектакля стала хрэстаматыйным для цэлага пакалення маладых балетмайстраў. Пра мужа — у жыцці і на сцэне — распавядае Лілія Дрэчына:

— Знаёмства з Сямёнам Дрэчыным... Ведаеце, як гэта звычайна бывае — сцэна, прыхільнікі, захапленні... Быў вольны час, хацелася цікавостак, цягнула да мастацтва, а балет — самае выдатнае! Уваходны білет — капейкі, адной сукенкі дастаткова на ўсе выхады. Я ў 1955 годзе вучылася на чацвёртым курсе хімічнага факультэта БДУ, а Сямён Уладзіміравіч ужо тады быў знакамітым танцоўшчыкам.

Хадзілі мы ў тэатр часта, многіх балетных ведалі — у маладосці лёгка знаёмішся з людзьмі. Неяк пасля спектакля затрымаліся ў вестыбюлі, сутыкнуліся са знаёмымі, загаварылі. Падыходзіць Дрэчын. Ён толькі вярнуўся з Еўропы, гэта была першая паездка савецкіх дзеячаў мастацтва, марскі круіз. «Прыходзьце, раскажу!» Вядома, мы пагадзіліся.

Распавядаў Сямён Уладзіміравіч вельмі цікава. А які гаспадар быў гасцінны! «Вось я з Вільні смакаты прывёз, частуйцеся, а вось гэта з іншых краёў...» Нам усё ў навіну! Было адчуванне нейкага чараўніцтва. Нам з сябрамі вельмі падабалася хадзіць да Сямёна Уладзіміравіча ў госці.

Летам 1957 года ў мяне экзамены і выпуск, з інтэрната трэба было высяляцца. А тэатр збіраўся на гастролі. Сямён Уладзіміравіч прапанаваў: «Пажывіце, Лілечка, у мяне. Кватэра на першым паверсе». Я пагадзілася — і засталася назаўжды.

Спачатку для мяне ён быў чалавекам іншай адукацыі, іншага выхавання — вышэйшым на галаву ці нават на дзве. Гэта прымушала расці, цягнуцца, даганяць яго па ўзроўні. Праз шмат гадоў сумеснага жыцця ён ужо мог папрасіць дапамагчы з лібрэта або з малюнкам танца — спачатку пра гэта і гаворкі не было.

Дзякуючы Дрэчыну пазнаёмілася з цікавымі, незвычайнымі людзьмі: цудоўным артыстам Ігарам Дзмітрыевым, вядомым мастаком Яўгенам Лысікам. Сямён Уладзіміравіч шмат ездзіў па Саюзе, і я, калі магла, ездзіла з ім. Кішынёў, Львоў, Ленінград…

Унутраная высакароднасць, шляхетная пастава, манеры — нават не ведаю, адкуль гэта ў ім было. А яшчэ ён умеў выбачаць — усё і ўсім, з чыстым сэрцам. Артыстычны свет складаны, але Сямён Уладзіміравіч жыў у ім з чыстай душой.

Здаецца, усё вакол сябе С. Дрэчын умеў ператвараць у творчыя ўражанні, новыя задумкі. Бачыў свет навокал не так, як звычайныя людзі, шмат чытаў.



*Сцэна з балета «Салавей».*

Праца яму заўсёды была ў асалоду. Прычым любая: і на вялікіх сцэнах вядучых тэатраў краіны, і на маленькіх — вось знаёмы дырэктар завода папросіць танец паставіць для іх мерапрыемства, вось у якім-небудзь Доме культуры нешта не ладзіцца... Вельмі любіў беларускі народны танец. Ездзіў на Палессе ў экспедыцыі, вывучаў танцавальны фальклор. Лічыў, што з усіх славянскіх танцаў беларускі — самы чысты, самы патаемны.

Працаваў да апошняга. У 1993-м, калі ўжо цяжка хварэў і дактары сказалі, што засталося два тыдні, яму тэлефанавалі, а ён казаў: «Вось ачуняю — абавязкова займуся». Да апошняй хвіліны адчуваў сябе патрэбным — поўны планаў, ідэй і задумак.

Цяпер, вядома, многае забыта. Толькі Львоўскі тэатр оперы і балета ў 2003 годзе аднавіў балет Ц. Пуні «Эсмеральда» ў пастаноўцы С. Дрэчына і стагоддзе з дня нараджэння Сямёна Уладзіміравіча адзначыў паказам гэтага спектакля.

**Ганна СЕВЯРЫНЕЦ**



# Гульні ў бязмежнай прасторы

Выстаўка Міколы Аўчыннікава «Вандроўкі па зямлі і прасторы» адкрылася ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Аўтар, тонкі лірык і адданы рамантык, распавядае пра любоў да жыцця, уменне зазіраць за даляглялы звычайнага.

Формы, мяккія і пластычныя, фігуры перацякаюць адна ў адну, ствараючы незвычайныя ўзоры, якія пры ўдумлівым разглядзе становяцца рэалістычнай карцінай.

Творчасць мастака прасякнута любоўю да роднай Беларусі, яе краявідаў.

«У снах мы вандруем там, куды немагчыма даехаць, даплыць, даляцець… Форма знікае — набывае новыя межы, знаходзіць новае жыццё ў кругавароце гібелі і аднаўлення», — разважае Мікола Аўчыннікаў. Карціны філасофскія: на іх можна глядзець доўга, кожную хвіліну спасцігаючы новы сэнс.

Сябры і калегі Міколы Аўчыннікава адзначаюць: мастак, як чалавек глыбокай думкі і шчырага сэрца, поўнасцю раскрыў сябе ў творах — і ў гэтым адзін з сакрэтаў яго поспеху.

«Мы жывём у абмежаванай прасторы, але ж свет нашмат цікавейшы, чым прывыклі думаць многія», — упэўнены творца.

Мікола Аўчыннікаў належыць да маладзечанскай суполкі мастакоў, але вучыўся ў Віцебску. Цяпер жыве ў Маладзечне, дзе з поспехам выкладае жывапіс і кампазіцыю ў гімназіі-каледжы мастацтваў. Між іншым нішто не скажа пра аўтара лепш, чым яго творы — выстаўка «Вандроўкі па зямлі і прасторы» запрашае да 4 ліпеня.

**Марыя ВОЙЦІК**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

# Захавальнік помнікаў сярэднеазіяцкай мінуўшчыны

**Імя Васіля Андрэевіча Калаура (1843 — 1919), ураджэнца Мінскай губерні, расійскага ўсходазнаўца, на вялікі жаль, па-за ўвагай 18-томнай «Беларускай Энцыклапедыі». Можа, справядлівасць і будзе адноўлена. Вельмі ўжо яркая асоба Васіль Андрэевіч Калаур, карані якога ідуць да прашчураў, што валодалі шляхецкім гербам «Астоя» (і былі ўнесены ў IV частку радаводнай кнігі Мінскай губерні). І ў Казахстане, Сярэдняй Азіі яго памятаюць нават цяпер. А ў даволі буйным горадзе Кызылардзе імя нашага земляка носіць адна з вуліц.**

Заслугі генерал-маёра расійскай арміі Васіля Калаура звязаны з яго апантаным захапленнем археалогіяй, гістарычным краязнаўствам. Закончыўшы ў 1867 годзе 2-е Канстанцінаўскае ваеннае вучылішча, наш зямляк патрапіў на вайсковую службу ў Туркестан. З 1880 па 1898 гады Калаур займаў пасаду начальніка Пяроўскага павета. Пяроўск — гэта і ёсць сучасная Кызыларда. А ранейшая назва па прозвішчы генерала ад кавалерыі графа Васіля Аляксеевіча Пяроўскага (між іншым, на раннім этапе ўдзельнічаў у руху дзекабрыстаў), генерал-губернатара Арэнбургскай і Самарскай губерняў. Якраз пры ім быў здзейснены паход на Хіву (праўда, няўдалы). Пры Пяроўскім былі наладжаны шматлікія ўмацаванні ў стэпе, даследавана Аральскае мора, усталявана параходная сувязь у Аральскім моры, узятая штурмам какандская крэпасць Ак-Мячэць у 1854 годзе і заключаны з Хівінскім ханам выгадны для Расіі мір.

*«Менавіта Калаур аддае распараджэнне сельскім старастам і шэйхам пры мазарах зберагаць помнікі ад наўмыснай шкоды, ад разбурэння.*

…Прыйшоўшы да кіраўніцтва Пяроўскім паветам, лічы, праз чвэрць стагоддзя, Васіль Калаур, канечне ж, патрапіў у крыху іншыя ўмовы. Але ранейшай засталася цікаўнасць расійскай ваеннай інтэлігенцыі да незнаёмых дагэтуль мясцін, да насельнікаў Сярэдняй Азіі. Шмат часу новы павятовы начальнік праводзіць у вандроўках па мясцінах старадаўняй гісторыі. Менавіта Калаур аддае распараджэнне сельскім старастам і шэйхам пры мазарах — зберагаць помнікі ад наўмыснай шкоды, ад разбурэння. Надзвычай цікавай можна лічыць спробу нашага земляка ўстанавіць у межах Ауліе-Ацінскага павета месцазнаходжанне сярэднявечных гарадоў на старажытных караванных шляхах.

У 1895 годзе ў Ташкенце быў створаны Туркестанскі гурток аматараў археалогіі. Васіль Анрэевіч Калаур — сярод самых актыўных яго сяброў. Дарэчы, хаця і лічылася гэтае аматарскае аб'яднанне «гуртком», усё ж яно нагадвала ледзьве не навукова-даследчы інстытут. Задачы ў збіральнікаў археалагічнай, гістарычнай памяці былі самыя амбіцыйныя. У адным з першых пратаколаў застаўся наступны запіс: «…першапачатковая задача дзейнасці Туркестанскага гуртка аматараў археалогіі заключаецца ў вывучэнні, апісанні і ахове помнікаў даўніны, якія знаходзяцца ў межах Туркестанскага краю».

За гады ўдзелу ў рабоце гуртка В. Калаур падрыхтаваў 19 артыкулаў і 7 паведамленняў. Усе працы вызначаліся надзвычайнай грунтоўнасцю. Узровень адказнасці фарміравала і акружэнне. Сярод актыўных членаў гуртка — Мікалай Пятровіч Астрамаў, Іван Васільевіч Анічкаў, Васіль Фёдаравіч Ашанін, Уладзімір Андрэевіч Мустафін, Мікалай Мікалаевіч Пантусаў і іншыя. Асобы дастаткова прыкметныя. Адзін толькі Васіль Ашанін чаго варты!.. Славуты этнолаг і падарожнік, ён амаль дзесяць гадоў быў дырэктарам Ташкенцкай школы шаўкаводства. Склаў каталог насякомых, куды ўключыў звесткі пра 5 тысяч відаў. Узначальваў экспедыцыі ў Карабеган і Дарваз. Выразны след ва ўсходазнаўстве пакінуў Мікалай Пантусаў. У 1895 годзе ён быў абраны членам-карэспандэнтам Імператарскай археалагічнай камісіі.

Знаёмства з такімі высокаадукаванымі асобамі ў значнай ступені спрыяла руплівасці, гісторыка-краязнаўчым памкненням самога Васіля Андрэевіча. Пра плён здзейсненага гавораць адно толькі назвы работ генерала, захопленага археалогіяй, доследамі сярэднеазіяцкай мінуўшчыны. У першым выпуску «Пратаколаў Туркестанскага гуртка аматараў археалогіі» наш зямляк друкуе даклад «Старажытнасці Аеліауцінскага павета». Зборнік выйшаў у 1896 годзе. У тым жа томе — работа «Пра развалiны Ак-Цюбэ і пра некаторыя археалагічныя знаходкі ў Алеауцінскім павеце». У зборніку 1897 года — даклад В. Калаура «Археалагічная вандроўка па Аеліауцінскім павеце». Яшчэ праз год — «Каменныя бабы ў Аеліауцінскім павеце». У 1899 годзе змешчаны даклад «Старажытнасці ў нізоўях ракі Талас». Праз год — «Старажытныя гарады Саганак (Сунак), Ашнас ці Эшнас (Асанас) і іншыя ў Пяроўскім павеце, Чынгізханам у 1219 годзе». У выпуску «Пратаколаў…» за 1901 год — адразу тры работы: «Старажытныя гарады, крэпасці і курганы па рацэ Сыр-Дар'і ва ўсходняй частцы Пяроўскага павета»; «Легенда пра Харасан-Ата»; «Маўзалей Кок Кесэне ў Пяроўскім павеце».

І зараз даследчыкі старажытнай гісторыі народаў Сярэдняй Азіі не забываюцца пра тое, што менавіта Васіль Калаур быў першаадкрывальнікам старажытнацюркскіх рунічных помнікаў у Таласкім рэчышчы, паблізу горада Аліеауціта (зараз — Джамбул). Генерал-краязнаўца сабраў звесткі па гістарычнай тапаграфіі і тапаніміцы. Васіль Андрэевіч супаставіў назвы і месцазнаходжанне помнікаў старажытнасці з іх назвамі і месцазнаходжаннем у творах кітайскіх і арабскіх аўтараў. У 1890 годзе пераслаў Бартольду персідскі рукапіс «Зборнік летапісаў», у якім утрымліваліся матэрыялы пра шэйхаў горада Касана (Ферганская вобласць). Касан — старадаўняя сталіца Ферганскага краю. Васіль Уладзіміравіч Бартольд, які нарадзіўся ў 1869 годзе, за абарону дысертацыі «Туркестан у эпоху мангалізацыі» атрымаў ступень доктара гісторыі Усходу. Несумненна, сярод складнікаў, крыніц, якія вялі да поспеху, — і падказкі, падтрымка Васіля Андрэевіча Калаура.

А ўсходазнаўцу А. Вышнягорскаму генерал-краязнаўца перадаў арыгінальныя матэрыялы па звычайным праве кіргізаў і казахаў. У 1903 годзе Васіля Андрэевіча звольнілі ў адстаўку. У 1908 годзе ён пераехаў з Туркестана ў Кіеў. Памёр наш зямляк у Маскоўскай губерні ў 1919 годзе.

Яшчэ пры жыцці даследчыка — у 1902 годзе — пабачыла свет яго кніга «Гісторыя горада Аліеаута». У 2011 годзе ў Казахстанскім універсітэце імя Х. А. Ясаві выдадзены зборнік «Пратаколы пасяджэнняў і паведамленні членаў Туркестанскага гуртка аматараў археалогіі», дзе, безумоўна, знайшлося месца навуковай спадчыне Васіля Калаура. І ўсё ж гэта толькі частковае вяртанне даўніх здабыткаў нашага земляка. Відаць, даўно ўжо варта выдаць яго асобную кнігу. Як мне падаецца, ва ўмовах развіцця інтэграцыйных еўразійскіх працэсаў гэта мае асаблівае значэнне. Тым больш што некаторыя аспекты доследаў Васіля Калаура судакранаюцца яшчэ і з кітайскай праблематыкай, з Вялікім Шоўкавым шляхам.

Асобная тэма — ушанаванне памяці генерала-краязнаўца. Чаму б імя яго не надаць адной з вуліц Мінска?..

**Мікола ЛАДЫМЕРАЎ**

*Памяць*



Фота Наталлі Аляксандравай

# Колас быў яго Святлом

**25 чэрвеня 2015 г. пайшоў з жыцця Браніслаў Аляксандравіч Зубкоўскі. Мар'інагорскі, пухавіцкі настаўнік, краязнаўца, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. За плячыма ў яго засталіся 77 гадоў (нарадзіўся Браніслаў Аляксандравіч у Мар'інай Горцы 15 сакавіка 1938 года).**

Чытачы «Полымя», «Нёмана», «Літаратуры і мастацтва», «Звязды» добра ведаюць гэтага руплівага, стараннага літаратара. Браніслаў Зубкоўскі, прафесій якога як настаўніка з'яўлялася «беларуская мова і літаратура», шмат друкаваўся з коласазнаўчымі доследамі.

Дакументальныя апавяданні, нарысы, артыкулы, лірычныя абразкі — у гэтых і іншых жанрах ён падсумоўваў свае росшукі сведчанняў пра жыццё і творчасць народнага песняра. Браніслаў Зубкоўскі разам з вучнямі Блужскай, Амяльнянскай, Светлаборскай школ, дзе ён настаўнічаў, дырэктарстваваў, выхадзіў свае творы, сюжэты. Падказкі прынёс з экскурсій, вандровак, падарожжаў. Вёскі, дзе на Пухавіччыне ў розныя гады летаваў Якуб Колас, былі для мясцовага настаўніка сапраўднай энцыклапедыяй жыцця. З дапамогай коласаўскай філасофіі, светабачання «Новай зямлі» ён углядаўся ў родную пухавіцкую прастору, яе насельнікаў. Плён творчай працы — кнігі апавяданняў пра Якуба Коласа, адрасаваныя дзецям: «Чаму Загібелька лепш Парыжа» і «Сцяжынкамі Якуба Коласа», дзясяткі публікацый у розных перыядычных выданнях.

Якуб Колас у звязку з Пухавіччынай, сябры Якуба Коласа, іншыя абсягі бясконцай коласаўскай тэмы — гэта было і асновай гісторыка-літаратурнай, літаратурна-краязнаўчай работы Браніслава Зубкоўскага. Артыкулы, нарысы, рэцэнзіі на Коласаўскую тэму мар'інагорскі настаўнік друкаваў не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, ва Украіне.

Развітваючыся з Браніславам Аляксандравічам, хацелася б сказаць вось пра якую рысу гэтага добрага і светлага чалавека. Ён умеў сябраваць. Умеў захоўваць памяць пра таварышаў, якія раней за яго пакінулі белы свет. Пра іх — рускага і беларускага паэта Міхася Казакова, вядомага краязнаўца, журналіста Анатоля Ярохіна — яго артыкулы і ўспаміны.

Браніслаў Зубкоўскі, несумненна, застанецца ў памяці пухавічан, у памяці сваіх калег па сяброўне Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# Вера як подзвіг

**У раённым гісторыка-краязнаўчым музеі г. Узды на працягу года дзейнічае выстаўка «Бо няма ў свеце нічога, мацнейшага за веру». Праект распавядае пра хрысціянскую культуру Беларусі і прысвечаны жыццю уздзенскага святара Міхаіла Навіцкага, які ў 2000 г. быў кананізаваны.**

Міхаіл Навіцкі нарадзіўся ў вёсцы Сіманічы Мінскай губерні ў сям'і святара. Сям'я была незаможнай, але Міхаіл атрымаў выдатную адукацыю: скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Санкт-Пецярбургскага імператарскага ўніверсітэта. Працаваў выкладчыкам, але ў 1920 г. вырашыў прыняць духоўны сан і неўзабаве быў прызначаны благачынным прыходаў Уздзенскага благачыння. У 1935 г. айцец Міхаіл прыняў пакутніцкую смерць — напярэдадні Вялікадня быў моцна збіты невядомым чалавекам, які патрабаваў аддаць каштоўныя царкоўныя рэчы. Сям'я Міхаіла Навіцкага была выслана і пераехала ў Магілёў.

Праз шмат гадоў на гарышчы старога дома ў вёсцы Баравыя Уздзенскага раёна гаспадары знайшлі скрыню са старымі кнігамі і паперамі. Супрацоўнікі музея вызначылі, што знойдзеныя рэчы належалі Міхаілу Навіцкаму. Так у фонды музея патрапіў «Служэбнік для святароў», кніга «Найноўшы сацыялізм і хрысціянства» і іншыя кнігі з аўтографам М. Навіцкага. Разам з гэтымі выданнямі ў часовай экспазіцыі прадстаўлена падшыўка перапіскі дакументаў Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай царквы. Шмат цыркуляраў адрасавана непасрэдна протаіерэю М. Навіцкаму, ёсць дакументы з яго рукапіснымі тэкстамі.



*Абраз «Багамаці жыццядайная крыніца».*

М. Навіцкі меў непасрэднае дачыненне да стварэння Беларускай Мітраполіі. Па задуме тагачаснага епіскапа Мелхіседэка, утварэнне аўтаномнай Беларускай царквы павінна было адмежаваць мясцовую царкву ад руху аднаўленцаў і дазволіла б пазбегнуць дадатковых канфліктаў з уладай. М. Навіцкі ўдзельнічаў у слуханні і прыняцці праекта ўстава Беларускай Аўтакефальнай царквы, яго подпіс стаіць пад зваротам «Возлюбленным о Христе пастырям и верующим чадам Православной Церкви Белорусской от августа 1927 г».

Тры сыны М. Навіцкага загінулі падчас службы ў арміі. Мікалай Міхайлавіч Навіцкі атрымаў званне Героя Савецкага Саюза: 10 кастрычніка 1942 г. ён закрыў сваім целам амбразуру варожага дота, каб таварышы маглі заняць патрэбную вышыню. Мікалай Навіцкі загінуў у Краснадарскім краі, побач са станіцай Курынскай. «Подзвіг гэтага маладога салдата — узор правільнага выхання ў сям'і. Дзецям святара не дазвалялася наведваць заняткі ў школе, ім часта не прадавалі прадукты ў краме. Але яны не мелі злосці на суайчыннікаў і аддалі сваё жыццё дзеля іншых», — зазначае дырэктар музея Тамара Лухверчык. Пра камандзіра аддзялення 82-га гвардзейскага стралковага палка распавядае асобны стэнд экспазіцыі.



*Святар Міхаіл Навіцкі з сям'ёй.*

Між іншых прадстаўленых рарытэтаў — харугві і аблачэнне святара пачатку ХХ ст., якое магло належыць Міхаілу Навіцкаму. У выставачнай зале прадстаўлены іконы з калекцыі музея, напісаныя пераважна на пачатку ХІХ ст. на тэрыторыі Беларусі. Унікальны экспанат — абраз «Багамаці жыццядайная крыніца», створаны ў традыцыях стараабрадніцкай Веткаўскай школы. Да гэтага часу іконы Уздзенскага музея вывучаў толькі святар Аляксей Шышко з вёскі Магільна, які сам займаецца іканапісам і разьбой па дрэве. Многія наведвальнікі прыходзяць на выстаўку, каб перад старымі іконамі звярнуцца да Бога з малітвай.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ,**
**Ірына ВІЯЛЕНЦІЙ**

# Хлеб ёсць — усё будзе!

Так лічаць жыхары аграгарадка Батвінава Чачэрскага раёна. І нядзіўна: хлеб (асабліва жытны, чорны) быў увасабленнем дастатку і дабрабыту, а значыць, і працавітасці. Музей хлеба стварылі культработнікі Батвінаўскага культурна-спартыўнага цэнтра — дырэктар Ірына Нікішова, кіраўнікі гурткоў Мікалай Нікішоў і Любоў Філіпенка. Ідэю падтрымалі аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Чачэрскага райвыканкама і Меркулавіцкі сельскі Савет. Пры музеі працуюць гурткі «Каласок» і «Бабуліны далікатэсы». Іх удзельнікі, навучэнцы Батвінаўскай базавай школы, знаёмяцца з народнай творчасцю аграгарадка, збіраюць экспанаты для музея, запісваюць рэцэпты хлебабулачных вырабаў, бліноў, аладак, а потым гатуюць іх.

Першых наведвальнікаў — гасцей з Італіі — музей прыняў у кастрычніку мінулага года. Прыязджаюць і навучэнцы школ Чачэрска, Чачэрскага і Кармянскага раёнаў, г. Гомеля. У музеі ёсць і печ, якую зрабіў жыхар Батвінава Мікалай Нікішоў.

Печ — галоўнае ў інтэр'еры беларускай хаты месца, аснова жытла, расказала Любоў Філіпенка. Будавалі яе з правага боку ад увахода. Калі хата стаяла нетрадыцыйна, печ ставілі злева. Але ж такая хата ў сялян лічылася «хатай-няпрахай», таму што, калі жанчыны садзіліся прасці, правая рука ўпіралася ў сцену і няёмка, да таго ж мала свету.

Цеста замешваюць на заквасцы — жытняй, бульбяной, рысавай і іншай. Яно павінна «падысці». Каб праверыць, ці гатова печ прыняць хлеб, на под (дно печы) кідаюць жменьку мукі. Калі яна іскрыцца і загараецца, печ натоплена вельмі жарка. Тады бяруць мокрую анучу і выціраюць под печы, потым зноў кідаюць жменьку мукі: калі мука чорная, то печ не гатова. Карычневая — можна хлеб садзіць. А гатоўнасць хлеба раней правяралі так: з цеста бралі шарык і кідалі яго ў шклянку з вадой. Калі падымецца наверх — хлеб спечаны.

Самае чаканае для экскурсантаў — частаванне: свежаспечаны хлеб, адмысловая хатняя выпечка з сочывам, узвар, духмяная гарбата. Удзельнічаюць школьнікі і ў гульнёвай конкурснай праграме, сустракаюцца з казачнымі персанажамі і… з жывой казой Маняй. А з сабой атрымліваюць рэцэпты хатняга хлеба, каб зрабіць дома ды пачаставаць іншых.

**Людміла МЕЛЬНІКАВА**

# Русалчыны сцяжынкі

Вось ужо 18 гадоў як жыхары аграгарадка Вялікі Бор Хойніцкага раёна Жанна і Анатоль Харошкі, Ганна Яшына, Ганна Сачанка, Марыя Навуменка, Эма Кузьменка, Галіна Харошка, дырэктар Вялікаборскага цэнтра вольнага часу Алег Евянкоў аднавілі і праводзяць старажытны земляробчы абрад «Провады русалкі». Да ўдзелу ў фальклорна-абрадавай традыцыі далучаецца таксама народнае аматарскае аб'яднанне «Спадчына» Цэнтра культуры г. Хойнікі (кіраўнік Лілія Краўчанка) і мясцовая моладзь.

Пачынаецца ўсё з шэсця на чале з «русалкай», у ролі якой сёлета Анастасія Зелянчук. Суправаджаюць яе хлопцы-ахоўнікі Антон Жэўняк і Кірыл Прыходзька з песняй «Праводзім русалачку да бару...», ідуць да поля.

Абрад ладзіцца ў наступны тыдзень пасля праваслаўнай Троіцы. Легенда пра русалку передаецца з пакалення ў пакаленне. Калісьці людзі верылі, што дзіцё, якога не ахрысцілі, памрэ, «пойдзе ў русалку». Сабраліся тады вясковыя жанчыны пасля Троіцы і рашылі «правесці русалку». Як трэба апрануліся, пелі песні, весяліліся. Калі ішлі па вёсцы, да іх выйшаў стары жыхар: «Навошта вы русалку дражніцё?». Аднак людзі не паслухаліся. І вось на небе з'явілася вялікая хмара, сонца села, пайшоў град, ды такі, што пабіў ва ўсіх агародах ураджай, акрамя ўраджаю таго самага дзядулі. З таго часу і сталі ладзіць абрад.

Услед за русалкай ідуць жанчыны сталага ўзросту з абрадавымі вянкамі, за імі — іншыя. Каля ўзмежка поля распальваюць вялікае вогнішча. Хлопцы ды дзяўчаты праводзяць русалку ў жыта, дзе здымаюць з яе вянок і збягаюць. Пасля гэтага вяртаюцца да вогнішча, над якім — абрадавы вянок. Свае ж вяночкі асвячаюць над вогнішчам, раздаюць жадаючым, каб тыя прыносілі іх дамоў і раскідалі на градкі на добры ўраджай.

**Людміла МЕЛЬНІКАВА**

*З пошты «ЛіМа»*

# На ўспамін пра настаўніка

Паэт Мікола Федзюковіч нарадзіўся 22 мая 1943 года ў вёсцы Гутава (Брэсцкая вобласць) у сялянскай сям'і. Яшчэ ў школьныя гады пісаў вершы і нататкі ў газеты. Здольнага юнака пасля заканчэння сярэдняй школы ў 1960 годзе ўзялі на работу літсупрацоўнікам Драгічынскай раённай газеты «Чырвоная зорка». Затым ён працуе фотакарэспандэнтам Лунінецкай міжраённай газеты «Ленінскі шлях».

З 1970 года, пасля заканчэння Літаратурнага інстытута імя М. Горкага ў Маскве, М. Федзюковіч працуе рэдактарам у выдавецтве «Народная асвета». Затым — супрацоўнікам газеты «Чырвоная змена», рэдактарам часопіса «Служба быту Беларусі». З 1983 года паэт стаў літаратурным кансультантам газеты «Звязда». Пяру М. Федзюковіча належаць зборнікі вершаў «Зямля — магніт» (1968), «Мілавіца» (1971), «Птушыны грай» (1976), «Макаў цвет» (1979) ды іншыя.

На вялікі жаль, мне не пашчасціла асабіста пазнаёміцца з паэтам і цудоўным чалавекам. Пра тое, што ён быў сапраўды такім, магу меркаваць па лістах, якія атрымліваў ад Міколы Федзюковіча, калі той працаваў у рэдакцыі «Звязды». Пісаў ён мне, аўтару-пачаткоўцу добразычліва і з павагай, тактоўна ўказваў на недахопы.

Вось, напрыклад, у лісце ад 15 красавіка 1988 года Мікалай Мікалаевіч пісаў: «Паважаны Міхась Мітрафанавіч! Пераклады "З чэшскага гумару", магчыма, і маюць права на існаванне, але ці не лепш Вам звярнуцца да самастойнай творчасці. У нашай рэдакцыі даволі многа твораў арыгінальных рознага жанру. Чакаем ад Вас сваіх гумарэсак…»

А вось ліст, датаваны 31 кастрычніка 1988 года: «Паважаны Міхась Мітрафанавіч! Некаторыя з Вашых «Дыялогаў» прыйшліся нам даспадобы, пры магчымасці пастараемся іх выкарыстаць у друку (дарэчы, друкаваліся тады мае «Дыялогі» і гумарэскі. — **М. С.**). Дасылайце, калі ласка, новыя творы. Толькі — больш патрабавальнасці, больш гумару і сатыры! Усяго Вам добрага».

Такія лісты, упэўнены, атрымлівалі многія аўтары, і ўсе яны, безумоўна, удзячныя паэту і чалавеку Міколу Федзюковічу.

**Міхась СЛІВА**

# Нясвіжскі *open-air*

**Своеасаблівае падвядзенне творчых вынікаў сезона, выдатны музычны ўікэнд на прыродзе, падзея ў культурным жыцці краіны — з 26 па 28 чэрвеня ў Нясвіжы ў шосты раз прайшоў штогадовы фестываль «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў».**

Штогод у велічным замку беларускіх магнатаў, дзе ў XVIII стагоддзі быў створаны айчынны прафесійны тэатр, калектыў Вялікага тэатра Беларусі прадстаўляе разнастайныя канцэртныя праграмы і творчыя вечары артыстаў, оперныя і балетныя спектаклі, у тым ліку прэм'ерныя.

У гэтым годзе нясвіжскі open-air пачаўся з канцэрта, які прадстаўляе новыя старонкі беларускай музычнай гісторыі. Асаблівае месца ў праграме — музыцы рэлігійнага характару. Канцэрты, якія даследуюць і раскрываюць гэты пласт нацыянальнай спадчыны, праходзяць у адным з найпрыгажэйшых храмаў Беларусі — касцёле Божага Цела. Творы кампазітараў Эдварда Гірдо і Антонія Радзівіла, якія гучалі тут 26 чэрвеня, непарыўна звязаныя з гісторыяй сакральнага месца. Калі імя і заслугі Антонія Радзівіла — магната, палітыка, мецэната, кампазітара — шырока вядомыя, то асоба Э. Гірдо апынулася ў фокусе ўвагі даследчыкаў не так даўно. У канцы 1990-х гг. у Нацыянальную бібліятэку Беларусі была перададзена частка нотнага архіва Нясвіжскага касцёла Божага Цела. Сярод мноства музычных твораў розных аўтараў былі знойдзеныя рукапісы твораў Эдварда Гірдо. У перыяд паміж дзвюма сусветнымі войнамі ён служыў у касцёле арганістам і кіраўніком хору, быў значнай фігурай у музычным жыцці горада і пакінуў пасля сябе безліч цікавых твораў рэлігійнага і свецкага характару. Менавіта яго творчасць склала аснову «Канцэрта харавой музыкі» падчас адкрыцця фестывалю ў Нясвіжы, які падрыхтаваў харавы калектыў Вялікага тэатра пад кіраўніцтвам галоўнага хормайстра тэатра народнай артысткі Беларусі Ніны Ламановіч.

Вечар 26 чэрвеня быў прысвечаны балетнаму мастацтву. На галоўнай фестывальнай сцэне, ва ўнутраным двары замка Радзівілаў, прадстаўлены спектаклі «Жар-птушка» І. Стравінскага і «Шахеразада» М. Рымскага-Корсакава са спадчыны легендарных «Рускіх сезонаў» Сяргея Дзягілева. Беларускія гледачы мелі магчымасць бачыць гэтыя балеты практычна ў першапачатковым выглядзе — такімі, як іх задумаў у пачатку мінулага стагоддзя вялікі рускі харэограф Міхаіл Фокін. А сцэнаграфія выбітнага мастака, ураджэнца Беларусі Лявона Бакста ўзноўлена па яго арыгінальных эскізах і малюнках.


Фота БелТА

Сцэна са спектакля «Жар-птушка» Ігара Стравінскага.

Яшчэ адной добрай традыцыяй фестывалю ў Нясвіжы сталі выступленні салістаў оперы ў суправаджэнні струннага квінтэта «Сэрэнада». У ансамбль уваходзяць музыканты сімфанічнага аркестра Вялікага тэатра. У рэпертуары — творы розных эпох і жанраў. Новую праграму «Любові нягучныя словы» з удзелам салісткі оперы, уладальніцы медаля Францыска Скарыны Таццяны Трацяк і квінтэта «Сэрэнада» можна было пачуць 27 чэрвеня.

Увечары таго ж дня на сцэну выйшлі героі оперы «Паяцы». Прэм'ера самай вядомай оперы Руджэра Леанкавала адбылася мінулай зімой і адкрыла яшчэ адзін традыцыйны творчы праект Вялікага тэатра Беларусі — Мінскі міжнародны Калядны оперны форум. Гісторыю вандроўнай акцёрскай трупы, у якой узнікае любоўны трохкутнік, рэжысёр-пастаноўшчык Міхаіл Панджавідзэ перанёс у свет сучаснага тэатра. «Паяцы» — тэатр у тэатры. Героі оперы вымушаныя адлюстроўваць на сцэне ўсё тое, што перажываюць у жыцці. Камедыя на падмостках і сапраўдная драма жыцця сплецены так, што самі акцёры ўжо не разумеюць, дзе п'еса, а дзе рэальнасць. Дырыжыраваў музычнай драмай Р. Леанкавала ў Нясвіжы запрошаны маэстра — народны артыст Азербайджана Ялчын Адыгезалаў.


Фота БелТА

Сцэна са спектакля «Шахеразада» Мікалая Рымскага-Корсакава.

28 чэрвеня ў тэатральнай зале замка Радзівілаў упершыню ў Нясвіжы былі паказаныя дзве прэм'ерныя пастаноўкі тэатра: «Служанка-спадарыня» і «Капельмайстар» віртуозаў італьянскай камічнай оперы XVIII стагоддзя Джавані Пергалезі і Даменіка Чымарозы. Гэтыя кампазітары ўвайшлі ў гісторыю як майстры оперы-buffa, вясёлага музычна-тэатральнага жанру, для якога характэрныя невялікі маштаб прадстаўлення, рухомасць дзеяння і пацешныя, часта парадыйныя, сюжэты. «Служанка-спадарыня» Дж. Пергалезі і «Капельмайстар» Д. Чымарозы — адны з самых яркіх твораў у сваім жанры, якія спалучаюць лёгкасць і прыгажосць музычнай мовы з бліскучым італьянскім гумарам. Дырыжор — Андрэй Іваноў.

Яркім завяршэннем трохдзённага музычнага свята ў замку Радзівілаў стаў грандыёзны канцэрт «Вялікай Перамозе прысвячаем». Гэта яшчэ адно прысвячэнне Вялікага тэатра Беларусі 70-годдзю Перамогі. У маі мінскай публіцы ўжо былі прадстаўлены выстаўка, якая расказвае пра ваенныя старонкі жыцця тэатра, і канцэртная праграма «Лісты з фронту».

**Таццяна ШЫМУК**

# Мемарыял для Рэйтана

**Адкрыццё фестывалю эксперыментальнага мастацтва ДАХ-XXVIII «Рэйтан» адбылося ў сталічным Палацы мастацтваў.**

Фэст прысвечаны выбітнай асобе беларускай гісторыі XVIII стагоддзя — Тадэвушу Рэйтану (1740 — 1780), імя якога ўвайшло ў гісторыю дзякуючы яго мужнай барацьбе супраць Першага падзелу Рэспублікі Абодвух Народаў (Рэч Паспалітая, 1772). Падчас Надзвычайнага сойму 1773 года Т. Рэйтан стаў на чале невялікай групы паслоў з беларускіх зямель Вялікага Княства Літоўскага, якія, апялюючы да законаў дзяржавы, чатыры дні спрабавалі пераканаць маладушных паслоў адступіцца ад здрады, стаць на абарону Бацькаўшчыны. Але, на жаль, Акт падзелу быў падпісаны. Нягледзячы на «паразу», імёны мужных абаронцаў беларуса-ліцвіноў — Тадэвуша Рэйтана, Самуэля Корсака, Станіслава Багушэвіча-Мінькоўскага — назаўсёды засталіся ў сусветнай гісторыі як прыклад нязломных патрыётаў.

Безумоўна, першым сярод іх з'яўляецца Тадэвуш Рэйтан, асоба якога больш як 200 год натхняла беларускіх мастакоў і пісьменнікаў. Але сёння — амаль поўнае забыццё... З мэтаю вяртання імя вялікага чалавека ў 275-ю гадавіну з дня нараджэння Тадэвуша Рэйтана і зладзілі фестываль. Разам з тым куратары форуму ставяць пытанне стварэння дзяржаўнага мемарыяльнага музея ў сядзібе Рэйтанаў, у вёсцы Грушаўка Ляхавіцкага раёна, па прыкладзе музеяў Адама Міцкевіча, Напалеона Орды, Тадэвуша Касцюшкі, роду Нямцэвічаў, Пуслоўскіх, Станіслава Жукоўскага.



Васіль Грыневіч «Сядзіба ў Грушаўцы». 2015 г.

У фестывальнай праграме, якая складаецца з канцэртаў, літаратурна-музычных імпрэз, перформансаў, бяруць удзел пісьменнікі, мастакі, музыкі, краязнаўцы і перформеры з усіх куткоў Беларусі. Чакаюцца прыемныя сюрпрызы — сустрэчы з папулярызатарам музычнай спадчыны Беларусі Віктарам Скорабагатавым і вядомым гісторыкам Алесем Краўцэвічам. Асобнае месца ў экспазіцыі займаюць творы Язэпа Драздовіча і Уладзіміра Караткевіча, які шанаваў асобу Тадэвуша Рэйтана. Стрыжнем выставачнай прасторы з'яўляецца ўнікальны графічны шраг — «Род Рэйтанаў. Асобы. Падзеі» — каля 100 прац куратараў фэсту мастакоў-даследчыкаў Алеся Родзіна і Змітра Юркевіча.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 1.07.2015 у 11.00

Ум. друк.11 арк. 3,72

Наклад — 2029.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1478 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12